


ТБШ на Беласточчыне→8


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714




Памежжа ўзнімае крылы→9


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 41 (3048) Год LIX | Беласток, 12 кастрычніка 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# ЧАМУ не па-свойму?

**Некалькі дзясяткаў гадоў друкуюцца ў нас тэксты напісаныя на нашых падляшскіх дыялектах, якія апошнім часам сталі называць падляшскай мовай. Дарафей Фіёнік і яго Музей малой айчыны ў Студзіводах выдаюць на падляшскай мове, кірыліцай кніжкі і часопіс «Бельскі гостінэць». Звяртаюць яны ўвагу, што сённяшняя мова, на якой размаўляюць у Студзіводах, Чыжах, ці Кленіках — вуснае прадаўжэнне пісьмовага варыянту вельмі падобнай старабеларускай мовы, на якой 500 гадоў назад выдаваліся распараджэнні польскага караля і вялікага князя літоўскага. Літаб'яднанне «Белавежа» выдавала на падляшскіх гаворках творы, між іншым, Зосі Сачко, Івана Кірызюка і Віктара Стахвюка. У нашым тыднёвіку «Ніва» таксама друкаваліся творы мясцовых аўтараў на падляшскіх дыялектах, напрыклад удзельнікаў літаратурнага конкурсу «Дэбют». Друкавалі мы на падляшскай мове артыкулы Дарафея Фіёніка, Тамаша Сулімы.**

Тэксты па-падляшску друкаваліся таксама ў «Часопісе». Нядаўна выйшла з друку кніжка «Чом не по-своёму? Падляшскі лементар з паясненнямі» аўтарства журналіста Радыё Свабода ў Празе, а ў мінулым журналіста «Нівы» Яна Максімюка, які актыўна займаецца прапагандаваннем пісання лацінкай па-падляшску. У кніжцы прапануе карыстацца пісьмовай формай гаворак беларусаў Падляшша і змяшчае граматыку для пісьмовага варыянту падляшскіх дыялектаў, якую сам саставіў. Прамоцыя гэтага выдання адбывалася з 3 па 5 кастрычніка ў Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы і Беластоку ў рамках Тэатральнага фестывалю «Одэ», які арганізаваў Фонд «Тэатр Чрэва». Сустрэчы з Янам Максімюком папярэджваў спектакль «ПустаЯ» Тэатра «Чрэва». Сваёй выдатнай ігрой, размаўляючы па-падляшску, захапілі публіку прафесійныя акцёркі Іаанна Стэльмашук-Троц і Юліянна Дораш. На спектакль «ПустаЯ» прыходзілі нават асобы, якія раней глядзелі яго некалькі разоў.



Ян Максімюк падпісвае кніжку




— Ужо другі раз паглядзеў я спектакль «ПустаЯ» і з такім самым захапленнем, як першы раз, — заявіў 3 кастрычніка ў канцэртнай зале Бельскага дома культуры Ян Максімюк, аўтар перакладу тэксту для спектакля.

Сярод публікі былі, між іншым, выконваючы абавязкі бургамістра горада Бельск-Падляшскі Яраслаў Бароўскі, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах» Дарафей Фіёнік разам з дзеячамі музея і многа моладзі. Тамаш Суліма са Студзіводскага музея пасля спектакля павіншаваў акцёрак. Заявіў, што прыйшоў трэці раз паглядзець спектакль «ПустаЯ» і чарговы раз захапляўся выдатнай ігрой. Важна яму, што акцёркі выступалі на сваёй мове ды прапагандавалі беларускія традыцыі і культуру.

— Хаця спектакль «ПустаЯ» абапіраецца на замежны сюжэт, я хацела прадставіць у ім нашыя падляшскія традыцыі, культуру і, канешне, па-свойму, на падляшскай мове. Мае продкі па маме і бацьку размаўлялі на мове падобнай да беларускай літаратурнай мовы і я так у дзяцінстве вучылася размаўляць, наведваючы мае бабулі і сямейнікаў у вёсках. З падляшскай мовай я бліжэй сутыкнулася ў Звязе беларускай моладзі. Там амаль усе дзеячы размаўлялі па-падляшску і я палічыла, што большасць свядомых беларусаў на Падляшшы размаўляе на падляшскай мове. Каб дайсці са спектаклямі да мясцовых беларусаў, рашылася выступаць на падляшскай мове і звярнулася да Яна Максімюка з просьбай зрабіць пераклады на сваю мову. Прэм'ера першага спектакля «Я ў полі вэрбою росла» адбылася ў Цэнтры адукацыі і прамоцыі беларускай культуры ў Шчытах, дзе менавіта размаўляюць па-падляшску, а спектакль «ПустаЯ» мы таксама прэзентуем у вялікай ступені перад падляшамі, — сказала акцёрка і заадно рэжысёрка Іаанна Стэльмашук-Троц.

Другая акцёрка Юліянна Дораш стала інтэнсіўна вучыцца размаўляць на падляшскім дыялекце толькі ў гімназіі і зараз для яе маўленне па-свойму — важная справа.

— Зараз, калі я жыву і працую ў Познані, мне менавіта не хапае размоў на сваёй мове. У дзяцінстве бацькі размаўлялі са мной толькі па-польску і калі ў гімназіі з'явілася ў мяне нацыянальная свядомасць, паявілася патрэба размаўляць па-свойму. Я стала перш за ўсё размаўляць дома з бацькамі і сямейнікамі. Зразумела, што каб навучыцца гаварыць, патрэбная пастаянная практыка, якой цяпер мне не хапае, калі жыву здалёк ад бацькаўшчыны, — заявіла Юліянна Дораш, выпускніца Аддзялення лялечнага мастацтва ў Беластоку (філіяла Тэатральнай акадэміі ў Варшаве), якая зараз працуе ў тэатры ў Познані. — Я вельмі рада супрацоўніцтву з Асяй Троц, якая запрапанавала мне выступаць у спектаклі «ПустаЯ» і задаволена, што гэты спектакль стаў маёй дыпломнай работай.

Ян Максімюк падчас прамоцыі кніжкі ў Бельску-Падляшскім падзякаваў здольным акцёркам за прапагандаванне падляшскай мовы падчас спектакляў.

— Можна падрыхтаваць і запрэзентаваць тэатральныя спектаклі на падляшскай мове на высокім узроўні, якія спадабаюцца публіцы. Гэта цудоўная справа, пацвярджэнне, што можна прэзентаваць на нашай падляшскай мове высокае мастацтва, — сказаў Ян Максімюк. Пераконваў ён сабраных, што дзеля захавання беларускай тоеснасці трэба гаварыць і пісаць на падляшскім дыялекце, які называе таксама падляшскай мовай. Заклікаў гаварыць па-падляшску ў беларускамоўных перадачах на радыё, тэлебачанні і пісаць на падляшскай мове ў беларускамоўных газетах і часопісах, накіраваных да жыхароў Падляшша.

— Трэба паднесці падляшскую мову беларусаў да ўзроўню публічнай мовы, — заявіў Ян Максімюк і расказаў пра сваю кніжку «Чом не по-своёму? Падляшскі лементар з паясненнямі».

Тэксты ў новым выданні напісаны Янам Максімюком на трох мовах: беларускай, польскай і на падляшскім дыялекце. Аўтар заклікае пісаць на падляшскай мове лацінкай, бо лічыць, што з выкарыстаннем гэтага алфавіту можна дакладней перадаць асаблівасці падляшскага дыялекту. Падчас спаткання звярнуў ён таксама ўвагу на сайт «svoja.org», створаны яго братам Аляксандрам Максімюком, на якім таксама заклікаецца размаўляць і пісаць на падляшскай мове. Старшыня студзіводскага аб'яднання Дарафей Фіёнік уручыў Яну Максімюку сваё новае выданне «Міеста в гісторыјі і кул'туры пудл'ашскіх біелорусув» і некаторыя іншыя кніжкі, выдадзеныя на падляшскай мове кірыліцай.

— Нашую падляшскую мову называюць таксама каралеўскай, бо на старабеларускай мове, падобнай да нашай падляшскай, у мінулым пісаліся распараджэнні польскага караля і вялікага князя літоўскага, — гаварыў Дарафей Фіёнік, які перакананы, што пісьмовы варыянт падляшскай мовы павінен абапірацца на кірыліцу, згодна з доўгімі мясцовымі традыцыямі.

У канцы сустрэчы Ян Максімюк падпісваў кніжку «Čom ne po-svojomu?».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Абараніць чалавека

Калісьці даўно, як толькі давялося прыехаць у Гародню, давялося паразмаўляць з адным вядомым біёлагам Гарадзенскага ўніверсітэта. Размова ішла пра народы ды нацыі, пра цывілізацыі, якія тыя народы стварылі і ўвогуле пра сутнасць цывілізацыі. Тады быў вялікі ўсплёск нацыянальнай свядомасці беларусаў. Буяў той самы нацыянальны пад'ём, які і здужаў аднавіць беларускую незалежнасць. Таму і інтэлектуальныя размовы таго перыяду часта тычыліся нашых нацыянальных вытокаў, і нашай нацыянальнай цывілізацыі, якую калісьці пачалі будаваць нашыя славутыя прашчуры, і якую нам і нашым нашчадкам трэба ўмацоўваць, развіваць і ўдасканальваць.

— А як ты думаеш, які духоўны парог пераадолелі людзі, каб ад дзікунскага першабытнага стану пераўтварыцца ў постаці, здольныя пачаць будаваць цывілізацыю сучасных людзей? — нечакана спытаў ён мяне.

— А што, такі парог ёсць? — адказаў я пытаннем на пытанне.

— Ёсць, — упэўнена заявіў ён. — У розных месцах людзі ў розны час пераадольвалі гэты бар'ер. Але гэты вызначальны пераходны момант ёсць ва ўсіх.

— І што гэта? — з заміраннем у сэрцы спытаў я, чакаючы нейкага адказу, пра які і сам думаў што здагадваюся. Але тое, што я пачуў, разам з высновамі пра наступны парог, які чалавецтва мусіць пераадолець на сваёй дарозе да ўдасканалення цывілізацыі, прымусіла мяне задумацца на доўгія гады, і нават на дзесяцігоддзі.

— Першы парог да цывілізацыі чалавек перайшоў тады, калі перастаў есці іншага чалавека. Некалі канібалізм быў дапушчальны. Цяпер жа людзі ў большасці сваёй не могуць з'есці чалавека. І нават калі паміраюць ад голаду, ім агідна гэта рабіць. Менавіта гэты духоўны выбар паспрыяў пабудове і развіццю першаснай чалавечай цывілізацыі. А зараз людзі мусяць перайсці наступную маральна-этычную рэвалюцыю, калі чалавек не зможа забіць іншага чалавека ні ў якіх варунках. Яму будзе гэтак жа агідна забіць, як сёння з'есці. І гэта будзе новы вялікі этап развіцця сапраўднай чалавечай цывілізацыі.

З гадамі я ўсё часцей задумваўся над яго словамі. А як заняўся абаронай правоў чалавека, то ўбачыў і прамую аналогію, паміж цывілізацыйнасцю людзей і адносінамі іх да забойства чалавека. І ўсё больш становіцца прыкра і горка, што нашая беларуская дзяржава сёння ёсць адзінай у Еўропе, хто практыкуе забойства чалавека праз смяротнае пакаранне. Мы адзіныя, хто адарваўся ад агульнаеўрапейскай цывілізацыі ў гэтым кірунку.

Так, свет — жорсткі і неадназначны. Людзі гінуць на войнах і ў канфліктах. Яны мусяць ваяваць, каб бараніць сваю Айчыну і свае ідэалы. Але ж першы крок да змены поглядаў на забойства рабіць трэба. І яго зрабіць можна, як гэта зрабіла ўся астатняя Еўропа: не дазволіць дзяржаве забіваць чалавека праз смяротнае пакаранне. Гэта не толькі змякчае магчымасць судовай памылкі. Гэта не толькі пазбаўляе тых, хто мае ўладу, выкарыстоўваць дадзеную ненармальную нібыта норму для сваіх мэт. Гэта яшчэ і мяняе стаўленне грамадства да жыцця кожнага асобнага індывіда. Гэта першы крок да разумення, што чалавека забіваць недапушчальна, агідна і нечалавечна. Гэта першы крок да той цывілізацыі людзей, дзе ніхто ні пры якіх варунках не зможа забіць іншага чалавека, як на цяперашняй стадыі развіцця не можа яго з'есці.

Менавіта дзеля гэтага беларускія праваабаронцы ўжо не першы раз абвясцілі тыдзень супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, які будзе праходзіць да дзясятага кастрычніка. Тыдзень абвостранай публічнай працы, якая і так вядзецца штодзённа, але ў гэты перыяд надзвычай масава і скаардынавана, каб беларускае грамадства глыбей задумалася пра гэтую праблему. Пра тое, што мы можа таму і ў іншых аспектах развіцця не так шчыльна, як хацелася б, крочым разам з астатняй Еўропай, што не ўцямілі яшчэ, што наш цывілізацыйны шлях ляжыць у агульнаеўрапейскім стаўленні да розных аспектаў, але ў першую чаргу да чалавечага жыцця. І што калі мы чуем словы „забіць чалавека", то гэта мусіць выклікаць толькі адно жаданне — абараніць таго чалавека.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Без нахабства, калі ласка



Польскія лекары ў медыцыне зрабілі рэвалюцыйны крок. Вось правялі яны першую, і верагодна, апошнюю ў свеце кальпаскапію похвы ў... мужчыны. Ужо сам факт займення похвы ў асобеня мужчынскага полу здзіўляе. Спяшаюся, аднак, супакоіць засмучаных гэтай інфармацыяй мужчын, што такі пацыент на самой справе не існаваў. Як і пацыентка, у якой польскія лекары ў ходзе ультрагукавых даследаванняў знайшлі... мужчынскія ячкі. Але гэта не канец медыцынскай рэвалюцыі. Вось у адной бальніцы на поўдні краіны быў падвергнуты комплекснай рэабілітацыі памерлы ад больш дзясятка гадоў пацыент. Значныя выдаткі на медыцынскія працэдуры, якія бальніца пацярпела ў барацьбе за жыццё памерлага, аплачаны былі Нацыянальным фондам здароўя. Дзякуючы надзейным выплатам НФЗ бальніца цудам пазбегла банкруцтва. Неданябожчык (як яшчэ можна бедалагу назваць?) не выпрабаваў, аднак, цуду ўваскрасення. На вялікі жаль. Польскія лекары не саступаюць ведамі і ўмеласцямі сваім амерыканскім і нямецкім калегам. Але з пункту гледжання творчасці з'яўляюцца першакласнымі ў свеце. Перш за ўсё ў медыцынскім махлярстве.

Вышэйапісаныя адкрыцці выявіў працуючы ад некалькіх месяцаў Інтэграваны інфарматар пацыента (ІІП). Гэта камп'ютарная сістэма, дзякуючы якой пацыенты могуць пастаянна адсочваць гісторыю хваробы, спіс прызначаных лекаў і нават фактычны кошт лячэння. ІІП быў створаны для зручнасці пацыентаў і лекараў. Хутка высветлілася, што таксама прыслужыўся Нацыянальнаму фонду здароўя, які з'яўляецца асноўным плацельшчыкам медыцынскіх паслуг у Польшчы. Толькі праз некалькі месяцаў эксплуатацыі сістэмы польскія пацыенты вылавілі дзясяткі тысяч парушэнняў у іх асабовых рахунках і, такім чынам, падалі ў НФЗ больш за 1300 скарг. Залішне казаць, што яны пераведзены ў адпаведныя праверкі, якія паказалі, што кошт паслуг аспрэчаных пацыентамі налічвае больш за паўмільёна злотых. І гэта толькі бачная частка айсберга. Медыцынскія падробкі толькі ў перыяд 2008-2014 гг. ацэньваюцца ў дзясяткі мільёнаў злотых. Верагодна, некаторыя з іх будуць выяўлены, частка спрытна размытая. Некалькі ці пару дзясяткаў груба несправядлівых лекараў будуць пакаранымі. Але што з гэтага, калі НФЗ не ў стане ахапіць усю медыцынскую халатнасць. Абманшчыкі абскубваюць яго з грошай і такім чынам не хапае іх на лячэнне хворых, на набыццё спецыялізаваных лекаў або аплату многіх медыцынскіх працэдур. Пытанне, чаму гэтая сістэма кіравання такая дзіравая, няхай застаецца адкрытым. Акрамя таго, да гэтага часу абавязваюць няясныя крытэрыі аплаты медыцынскіх паслуг. У кожным ваяводстве разлічваюць іх у адпаведнасці з асобнай тарыфнай сеткай. Некаторыя паслугі вышэй ацэньваюцца ў Варшаве, ніжэй у Беластоку. Але, каб было цямней, іншыя, ды з тымі ж медыцынскімі стандартамі, вышэйшыя ў Гайнаўцы, ніжэйшыя ў Беластоку. Яшчэ ніжэйшыя ў Варшаве. Не палапаецца ў гэтым ні спецыялізаваны, высокага класа кантралёр НФЗ, не кажучы ўжо пра сярэдняга пацыента. Акрамя таго, яму ўсё адно, колькі каштуе яго ўласная хвароба. Сваё здароўе аддаў быццам бы ў арэнду НФЗ, як кавалак урадлівай зямлі. Мабыць ён не павінен клапаціцца, ці будзе яна засеяна збожжам, або застанецца папарам. За яго арэнду і так вядома, што заплаціць НФЗ. Ды сэрца баліць значна больш, калі трэба стаяць у шторазь даўжэйшай чарзе да кардыёлага. Што з прыгожа засеянага поля, калі абскубаюць яго з каласоў махляры?! На думку чыноўнікаў, большасць махлярстваў робіцца ў стаматалагічных, гінекалагічных кабінетах і першаснай медыцынскай дапамозе. Працуючыя там лекары найчасцей за ўсё бяруць грошы з НФЗ за паслугі, якіх не выконвалі. Хопіць, што ўпішуць нумар сацыяльнага страхавання і зафіксуюць візіт, якога на самой справе не было. Дзякуючы ІІП-сістэме можна вылавіць такія махлярствы, як тая кальпаскапія ў мужчыны. Многае залежыць тут ад саміх пацыентаў. І нават больш ад НФЗ. Таму што няма яго прадстаўнікі змаўчалі наконт абманшчыка, які загадаў заплаціць за ультрагукавое абследаванне жаночых ячак. Тое ж, што паказала ў яе прысутнасць мужчынскіх ячак. Ну, без нахабства!

**Міраслаў ГРЫКА**



**Вачыма еўрапейца**

# З удзелам міністра

У тэрміновым парадку новы міністр адміністрацыі і лічбавізацыі Анджэй Галіцкі папрасіў сустрэцца з ім у Беластоку прадстаўнікоў падляшскіх нацыянальных і этнічных меншасцей (гэтае міністэрства адказвае за пытанні меншасцей, у прыватнасці, звязаныя з фінансаваннем іх арганізацый). Інфармацыя пра... суботнюю сустрэчу (27 верасня) была адпраўлена ў пятніцу бліжэй да вечара. Такога парадку да гэтага часу ні адзін з яго папярэднікаў не практыкаваў. Акрамя таго, сустрэча не адбылася як да гэтага часу ў нейтральным месцы — сядзібе прадстаўніка ўрада ў глыбінцы, то-бок, у падляшскага ваяводы — а прадстаўнікі беларускай, украінскай, рускай або татарскай і габрэйскай арганізацый былі запрошаны ў Цэнтр праваслаўнай культуры, які ў прыватнасці асацыюецца з дзейнасцю Форуму меншасцей Падляшша, беларуска-самаўрадава-палітычнага кааліцыянта Грамадзянскай платформы, партыі, якую прадстаўляе міністр Галіцкі. Сустрэча адбылася неяк пры нагодзе падпісання, між іншым, з яго ўдзелам у Беластоку і з вялікай помпай у Aula Magna палаца Браніцкіх тэрытарыяльнага кантракту для Падляшскага ваяводства. Пад кантрактам — у памеры 18,5 млрд. злотых — подпісы паставілі падляшскі маршалак Яраслаў Дважанскі і віцэ-міністр інфраструктуры і рэгіянальнага развіцця Івона Вендэль.

«Гэты дакумент будзе мець ключавую ролю ў бліжэйшыя гады, — сказаў у час урачыстасці маршалак Дважанскі. — Гэта дакумент адкрыты і будзе развівацца ў добрым для нас кірунку». Віцэ-міністр Вендэль адзначыла, магчыма, ненаўмысна адкрываючы фортачку для скарачэння ў будучыні кантрактаванай колькасці: «Мы разлічылі для Падляшскага ваяводства 18,5 млрд. злотых, і я думаю, што гэта рэальны аб'ём».

Тэрытарыяльны кантракт, які з'яўляецца свайго роду пагадненнем паміж урадам і ваяводскім самакіраваннем, вызначае мэты і прыярытэтныя мерапрыемствы, з істотным значэннем як для развіцця краіны, так і самога ваяводства. Таксама паказвае парадак іх рэалізацыі і фінансавання. Апрача еўрасаюзнага фінансавання, таксама ўключае ў сябе краёвыя сродкі. Мае абавязваць да 2023 года, але мае быць бягуча... абнаўляны. Наступныя перамовы па кантракце планаваныя ў канцы гэтага года, гэта значыць, пасля прыняцця аператыўных праграм, што фінансуюцца ЕС.

Як можна прачытаць у інфармацыі міністэрства інфраструктуры, тэрытарыяльныя кантракты з'яўляюцца «новым інструментам каардынацыі цэнтральных і мясцовых органаў на тэрыторыі ваяводства, які служыць узгадненню ўрадам і ўладамі рэгіёна найбольш важных мэт і ініцыятыў, маючых істотнае значэнне для развіцця краіны і ўказанага ў ім ваяводства». Пасля перамоў з Еўрапейскай камісіяй рэгіянальных праграм, у кантракты будуць уведзены палажэнні аб правілах іх ажыццяўлення і павялічыцца ўцягнутасць мясцовага самакіравання ў планаванне развіцця. Мэты, якія перапічаны ў кантракце для нашага ваяводства, гэта м.інш. паляпшэнне якасці даследаванняў і ўмацаванне супрацоўніцтва паміж навукай і эканомікай, што павінна перавесціся на павышэнне ўзроўню інавацыйнасці ваяводства, развіццё транспартных сувязей (аўтамабільных і чыгуначных), значыць, лепшая даступнасць нашага ваяводства, як на краёвым, так і міжнародным узроўні, мадэрнізацыя сістэм размеркавання і перадачы энергіі, і, такім чынам, павелічэнне энергетычнай бяспекі, выкарыстанне існуючага прыроднага і культурнага патэнцыялу, павышэнне ўзроўню занятасці, павышэнне ўзроўню адукацыі і кваліфікацыі, павышэнне якасці і даступнасці паслуг у галіне аховы здароўя.

Кантракт з Падляшшам утрымлівае спіс інвестыцый прыярытэтных для ваяводства. Ён уключае ў сябе, сярод іншага, будаўніцтва дарог S-8 (адрэзак Вышкаў — Замбраў, Вішнева — Яжэва або S-61 (ад кальцавой Аўгустова да дзяржаўнай мяжы), працы на чыгуначных лініях: Беласток — Бельск-Падляшскі, мяжа ваяводства — Чаромха — Гайнаўка, Леўкі — Гайнаўка, Беласток — Саколка — Кузніца-Беластоцкая, аднаўленне чыгуначных ліній на адрэзку: мяжа дзяржавы — Хрысанаў, Кузніца-Беластоцкая — Геніёшы, павелічэнне энергетычнай бяспекі — мадэрнізацыя і развіццё энергетычных сетак, распрацоўка і рэалізацыя праграмы развіцця Белавежскай пушчы.

Кантракт быў падпісаны ў Беластоку як другі такі дакумент у Польшчы. Першы некалькі дзён раней урад падпісаў з Сілезскім ваяводствам на 40,9 млрд. злотых. Лічыцца, што прыцягненне публічных еўрапейскіх і агульнапольскіх сродкаў на дзеянні ў галіне палітыкі развіцця ў цэлым па краіне ў 2014-2023 гады можа скласці каля 400 млрд. злотых. Такім чынам, здагадка пра суму кантракту на 18,5 млрд. злотых для Падляшша змяшчае яго хутчэй у канцы планаў развіцця.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Музей малой айчыны ў Студзіводах 21 верасня арганізаваў святкаванні пад лозунгам «Студзіводы — 500 гадоў запісанай гісторыі». Адбыліся яны ў дзень святкавання Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, якое ў Бельску-Падляшскім адзначаецца асабліва ўрачыста. У Прачысценскай царкве літургію ўзначалілі мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, мітрапаліт Чарнагоры Амфілохій і епіскап сямятыцкі Георгій. Дарафей Фіёнік, старшыня студзіводскага аб’яднання арганізуе «Спатканні на Прачыстую» і ў іх рамках сёлета наладзіў святкаванні прымеркаваныя да 500-й гадавіны з’яўлення ў дакументах назвы Студзіводы.**

# СТУДЗІВОДЫ

## 500 гадоў запісанай гісторыі



Мерапрыемства распачалося з падзячнага малебна перад часоўняй на тэрыторыі музея. Малітву ўзначаліў протаіерэй Ян Шмыдкі, настаяцель Пакроўскага прыхода



Алена Букач, кіраўнік калектыву «Зараніца» з Кобрына (злева), уручыла протаіерэю Яну Шмыдкаму ікону Пакрова Божай Мацеры, а старшыні музейнага аб’яднання Дарафею Фіёніку госці з Беларусі (справа) падарылі прыгожа вышытую падушачку

Мерапрыемства ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах распачалося з падзячнага малебна перад часоўняй на тэрыторыі музея. Малітву ўзначаліў протаіерэй Ян Шмыдкі, настаяцель Пакроўскага прыхода, да якога належаць Студзіводы. У сустрэчы прынялі ўдзел жыхары Студзіводаў, Бельска і прыезджыя ды госці з Кобрына. Пасля малебна Алена Букач, кіраўнік калектыву «Зараніца» з Кобрына, уручыла протаіерэю Яну Шмыдкаму ікону Пакрова Божай Мацеры, а старшыні музейнага аб’яднання Дарафею Фіёніку госці з Беларусі падарылі прыгожа вышытую падушачку, з пажаданнем, каб у сям’і Фіёнікаў нарадзілася другая дачушачка. Сабраныя выслухалі «Прывілей 1514 года», які ў арыгінале, на старабеларускай мове, прачытаў Дарафей Фіёнік.

— У кожнай мясцовасці ёсць свой юбілей. Ён часам абапіраецца на прыблізную дату, а ў нас ёсць канкрэтная — 1514 год. Бельскі мешчанін Іван Сегеневіч, пазнейшы бельскі войт, атрымаў ад караля і вялікага князя Жыгімонта I пацвярджэнне права на «жэраб студзіводскай зямлі», на вечнае валоданне студзіводскай зямлёй, якую атрымаў ягоны дзед Пратас Тышкевіч ад караля Аляксандра Ягелончыка, — заявіў Дарафей Фіёнік. — З замкавай бельскай царквой Нараджэння Прасвятой Багародзіцы Студзіводы былі спалучаны ад моманту іх заснавання і таму ўспамінаем гісторыю нашай мясцовасці на Прачыстую.

Пасля малебна сабраных павіншаваў святар.

— Віншую ўсіх жыхароў Студзіводаў з 500-й гадавінай з’яўлення першага запісу аб мясцовасці. Мы тут памаліліся, каб Гасподзь не аставіў нас і па хадатайстве Багародзіцы дапамагаў у розных выпрабаваннях, — гаварыў протаіерэй Ян Шмыдкі. — На гэтых землях ад многіх вякоў жылі праваслаўныя, а сведчыць аб гэтым хаця б старажытная Прачысценская царква ў Бельску-Падляшскім, у якой сёння праходзілі святкаванні.

— Інфармацыю пра «Прывілей 1514 года» мы знайшлі ў Літоўскіх метрыках, у якіх на старабеларускай мове апісаны нашы землі перыяду XVI стагоддзя. Мы цяпер гаворым практычна на такой самай мове, якую захавалі нашы продкі ажно да сённяшніх часоў, на працягу 500 гадоў. Род Сегеневічаў быў вядомым у Польшчы і Еўропе, а Бельск у XVI стагоддзі быў галоўным горадам Падляшша. І еўрапейскім горадам. Тут у 1564 годзе засядаў Вялікі сойм. Наш юбілей цяпер уключаны ў праграму Еўрапейскіх дзён спадчыны, — сказаў Дарафей Фіёнік. — Тое, што наш Музей малой бацькаўшчыны дзейнічае і эмануе на акружаючае асяроддзе, гэта прадаўжэнне той працы, якую ў далёкім мінулым рабіў род Сегеневічаў. Мы пераемнікі роду Сегеневічаў і працуем дзеля нашай бацькаўшчыны, як гэта рабілі браты Сегеневічы.

Над уваходнай брамай у Музей малой айчыны знаходзяцца выявы валюшніка, прыкладнага мужыка са Студзіводаў, які выконваў валёнкі і гістарычнай постаці Івана Сегеневіча. Гэта паказвае, што побач звычайных рамеснікаў і мужыкоў, у Студзіводах жылі вялікія гістарычныя постаці.

— З *двара* ў Студзіводах выводзіліся бізнесмены і самаўрадаўцы, як бы іх цяпер мы назвалі, падляшская інтэлігенцыя. Спрычыніліся яны да развіцця Бельска і Падляшша. Браты Івана Сегеневіча былі славутымі постацямі Падляшша. Цімафей Сегеневіч быў бургамістрам Бельска, а Пафнуцій Сегеневіч — фактычным заснавальнікам Супрасльскага манастыра. Двор Сегеневічаў расположаны быў прыблізна на скрыжаванні цяперашніх вуліц Студзіводскай і Ланковай, а іх маёнтак налічваў 300 гектараў зямлі. Праз маёнтак праходзіў важны гасцінец з Бельска ў Мельнік, знаходзіўся ў ім млын. Зараз плануецца будаваць заліў у Студзіводах, а 500 гадоў таму такі заліў быў у нашай мясцовасці і паўстаў перад млыном. Ужо тады людзі наракалі, што вада з заліву залівае іх сядзібы, — расказваў Дарафей Фіёнік

Студзіводы ў шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя былі ўключаны ў састаў Бельска-Падляшскага. Хаця зараз Студзіводы — гарадскі жыллёвы квартал, аднак не страцілі яны свайго вясковага характару. Калі ў Студзіводах адбываюцца фальклорныя святкаванні і карагоды водзяцца па яго вуліцах, відаць там вясковую забудову, а за многімі хатамі і гаспадарчымі будынкамі распасціраюцца палі з лугамі і ворывам. Зараз прадаюцца там участкі пад забудову.

— Пасля роду Сегеневічаў уласнікамі студзіводскага маёнтка былі шляхецкія роды Вішаватых, Сарнацкіх, Вышынскіх і Забельскіх, якія збудавалі новы *двор.* Пазнейшы ўладальнік Студзіводскага маёнтка Марцэлі Сумінскі, які жыў у Варшаве, стаў распрадаваць яго, а купілі палі мужыкі са Студзіводаў, Пілік, Аўгустова, Арэхвічаў і Шасталаў. Некаторыя ўчасткі зямлі засталіся ўласнасцю жыхароў гэтых вёсак да сёння. Практычна ўсе жыхары Студзіводаў падаліся ў бежанства ў 1915 годзе і былі там да 1921 года, — удакладніў Дарафей Фіёнік і звярнуўся з заклікам да жыхароў Студзіводаў: — Мы з’яўляемся спадкаемцамі Івана Сегеневіча і павінны ганарыцца, што ў нас быў такі славуты пачынальнік.

Музей малой айчыны дзейнічае ў Студзіводах з 1986 года. Апрача збірання і распаўсюджвання мясцовага фальклору музей збірае і публікуе гістарычныя матэрыялы.

— Тры гады назад мы адзначалі 25-годдзе дзейнасці Студзіводскага музея. Цяпер святкуем 500-ю гадавіну з’яўлення ў дакуменце інфармацыі, якая пацвярджае існаванне Студзіводаў у далёкім мінулым. «Прывілей 1514 года» мы знайшлі ў Літоўскіх метрыках нядаўна і ўжо сёння ў нас агульнастудзіводскае святкаванне, — заявіў Тамаш Суліма з Музея малой айчыны ў Студзіводах.

Альжбета Фіёнік успомніла святкаванне Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Прачысценскай царкве ў Бельску-Падляшскім, у якім прынялі ўдзел таксама жыхары Студзіводаў. Апранутыя ў народныя беларускія ўборы жанчыны з беларускіх калектываў «Магдаліна» і «Зараніца» падыходзілі ў царкве па блаславенства да мітрапалітаў.

— Я — прыхаджанін Прачысценскай царквы ў Бельску і сёння маліўся ў ёй. Надвор’е было вельмі прыгожае, паколькі на Прачыстую найчасцей шанцуе з надвор’ем. Адпачыўшы дома, я прыехаў на святкаванні ў Студзіводы, бо яшчэ ніколі тут не быў. Зараз я пад вялікім уражаннем ад святкавання і таго, што робіцца ў музеі, — сказаў Сяргей Зінкевіч.

Пасля афіцыйнай часткі ўдзельнікаў святкавання пачаставалі пячэннем і напіткамі. Перад публікай запрэзентаваліся два фальклорныя калектывы з Кобрына «Магдаліна» і «Зараніца».

— Алена Букач, кіраўнік калектыву «Зараніца», робіць вялікую работу дзеля захавання народнага фальклору і мясцовых традыцый. Дапамагаюць ёй дочкі. Сёння прыехала яе дачка Святлана, якая працуе музычным кіраўніком калектыву «Магдаліна», — паінфармаваў Дарафей Фіёнік, галоўны арганізатар святкавання.

Пасля спеваў ахвотныя маглі патанцаваць пад музыку народнай капэлы з Кобрына. З гісторыкамі і музычнымі калектывамі з Кобрына Студзіводскі музей супрацоўнічае вельмі актыўна і на гэты раз кобрынскія спявачкі і музыканты ўдала ўпрыгожылі юбілейнае гістарычнае мерапрыемства.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Медалі шлюбным парам



Злева направа сядзяць (а за імі стаяць іх мужыкі) А. Бышчук, Я. Сцепанюк, Г. Янушэк, В. Стошак, М. Рыдэль, М. Смалярук, А. Зінчук. У другім радзе першая з правага боку загадчыца ЗАГС А. Пытэль, трэці — войт Ю. Шыкула

Прэзідэнт Рэчы Паспалітай штогод прызначае медалі шлюбным парам за супольнае 50-гадовае сужонства. З ініцыятывай ушанаваць юбіляраў выступаюць да прэзідэнта лакальныя самаўрады. Сёлета ў Чаромхаўскай гміне медалі атрымалі Анна і Мікалай Бышчукі з Кузавы, Галена і Мікалай Янушкі, Анна і Мікалай Ляшукі, Марыя і Вацлаў Рыдэлі, Марыя і Віктар Смалярукі, Ванда і Юзаф-Ежы Стошакі з Чаромхі-Станцыі ды Яўгенія і Пётр Сцепанюкі з Палаўцаў.

Мерапрыемства адбылося 25 верасня 2014 года ў Гмінным асяродку культуры. Удзельнічалі войт Юры Шыкула, старшыня Рады гміны Надзея Суліма, працаўнікі ЗАГСа Аліцыя Пытэль і Анна Колтак, кіраўнікі самаўрадавых службовых адзінак з сакратаром Гміннай управы Марыяй Іванюк на чале, сямейнікі юбіляраў ды кола школьнай моладзі з настаўніцай Іаннай Раманюк, якія выступілі з мастацкай часткай. Ад імя прэзідэнта РП віншавальны ліст зачытаў і медалі ўручыў войт Юры Шыкула.

— Залатое вяселле гэта незвычайная падзея, — сказаў войт, — вялікае свята, якое адзначаецца пасля 50-гадовага сужонства. Палова веку ў супольным пражыванні гэта доказ узаемнай любві і зразумення істоты шлюбу, збудавання дамашняга ачага, які завецца сям'ёй. Гэта ўзор разумнага жыцця і прыклад маладым для пераймання. Сужонствы, якія адзначаюць Залатое вяселле, заслугоўваюць сардэчных пажаданняў, сяброўскіх абдымкаў, прысутнасці блізкіх асоб у гэты непаўторны дзень... Віншую ўсе прысутныя шлюбныя пары і перадаю ім самыя найлепшыя, ад шчырага сэрца пажаданні.

Пасля ўручэння медалёў, сімвалічнай кветкі і падарункаў ад гміннага самаўрада ўдзельнікі сустрэчы заселі да супольнага пачастунку, які падрыхтавалі працаўніцы ЗАГСа. Застолле праходзіла ў сардэчнай сяброўскай атмасферы, з чаркай шампанскага і традыцыйным «Сто лят». Затым у ходзе імпрэзы ажылі ўспаміны ды прагучалі тутэйшыя фальклорныя песні вядомыя юбілярам з юнацкіх гадоў. Запявaламі былі Галена Янушэк, Марыя Смалярук ды дырэктар ГАК Барбара Кузуб-Самасюк — лідар «Чарамшыны».

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Прыстрэшкі

У Гайнаўцы мала клапоцяцца пра прыстрэшкі на прыпынках аўтобусаў гарадской камунікацыі. Зараз тры найбольш брудныя ды запыленыя дашкі сустрэнем на вуліцах 3 Мая (два) і Стэфана Баторыя (адзін) у самым цэнтры горада. Сценкі іх у крымзолях, з усялякімі наклейкамі ды нават з дзіркамі. Дзірку ў адной са сценак з плексігласу прапаліі папяросай. Лавачкі пад дашкамі патрабуюць памалявання — з іх аблезла фарба і яны сталі пярэстымі.

Пасля нашай крытыкі ў мінулым годзе дырэкцыя Прадпрыемства гарадской камунікацыі (ПГК) грунтоўна аднавіла ўсяго адзін з прыстрэшкаў на вуліцы 3 Мая паблізу касцёла. Тут прытрымліваюцца аўтобусы ПГК, ПКС і прыватнага пасажырскага аўтатранспарту.

**(яц)**

# Кастусёў дом

(працяг з 40 н-ра)

У 1959 г. у Мастаўлянах здалі ў карыстанне новапабудаваную пачатковую школу, якую мелі назваць імем Кастуся Каліноўскага. З'ездзіў тады ў Мастаўляны Сакрат Яновіч, але ў той час не далі ёй імя патрона і не адкрылі двухмоўнай табліцы на будынку школы: «Еду ў Мастаўляны. Яшчэ раз прыпамінаю ўказанне галоўнага рэдактара. Значыць, маю зрабіць некалькі здымак з урачыстага распачацця першага навучальнага года ў школе імя Кастуся Каліноўскага ў Мастаўлянах. А ўжо абавязкова трэба было сфатаграфаваць мемарыяльную дошку ў двух мовах на сцяне школы! Гістарычная місія! Школьны будынак прывітаў пусткай. Пусткай дзіўнай майму прыўзнятаму настрою? Некалькі дзесятак дзяўчынак і хлопчыкаў сабралася на калідоры. Пачынаецца першы вучнёўскі ранішнік у наступаючым навучальным годзе. Кіраўнік Мікола Рэмжа сардэчна вітае ўсіх выхаванцаў. Я, як адзіны афіцыйны госць, таксама „дакладаю сваіх тры грошы". Пачатковай школе ў Мастаўлянах яшчэ не прысвоена імя Кастуся Каліноўскага. Гэтая ўрачыстасць мела адбыцца 2-га верасня г.г. Аднак тут нібы перашкодзіла рэарганізацыя Аддзела культуры ў Беластоку. На сценах школы не ўбачыў не толькі двухмоўнай мемарыяльнай дошкі, але нават і школьнай шыльды. Старшыня мясцовай грамадскай рады Міхась Усовіч нешта прыпомніў, што крыху там узбіралася грошай на „гэтую дошку". Але, калі ніхто з уладаў гэтым не цікавіцца... то...? Дарэчы будзе дадаць, што Міхась Усовіч з'яўляецца членам Камітэта пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму, які існуе ў Беластоку» («Ніва» № 36/1958). Адкрыццё двухмоўнай табліцы, увекавечваючай К. Каліноўскага, перакалі на 22 ліпеня 1959 г. Пятро Чарнякевіч інфармаваў: „Невялікая вёска Мастаўляны ўрачыста адзначыла свята 22 ліпеня. Дзень пятнаццацігоддзя спалучыўся тут з урачыстым адкрыццём мемарыяльнай дошкі, умураванай у сцяну мясцовай школы і прысваеннем гэтай школе імя Кастуся Каліноўскага. Тут у Мастаўлянах 121 год таму назад нарадзіўся Кастусь КАЛІНОЎСКІ — змагар за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларусаў і палякаў, арганізатар і кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. З самага ранку 22 ліпеня да Мастаўлян пачалі збірацца жыхары з навакольных вёсак. Прыбываюць мастацкія калектывы і госці. Перад будынкам мясцовай школы распачынаецца агульны мітынг. З дакладам аб 15 гадавіне Польскай Народнай Рэспублікі выступае старшыня Прэзідыума ПРН гр. Яўгень Стшалкоўскі. З гонарам пералічвае дасягненні нашай краіны за мінулыя 15 год. Затым з кароткім прывітаннем і пажаданнямі з выпадку слаўнага юбілею выступае сакратар Павятовага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі тав. Аляксандр Камінскі. Старшыня ПРН гр. Стшалкоўскі ўручае дзеячам павета дзяржаўныя ўзнагароды. Пасля сакратар Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Віктар Швед расказаў аб жыцці і дзейнасці ўраджэнца вёскі Мастаўляны КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. Пры поўнай цішыні з мемарыяльнай дошкі ўмураванай у сцяну мясцовай школы пад рукой старшыні ПРН спадае пакрывала. На дошцы напіс у польскай і беларускай мовах: „У вёсцы Мастаўляны 21.III.1838 г. нарадзіўся КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ змагар за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне палякаў і беларусаў, арганізатар і кіраўнік студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве. Загінуў з рук царскіх сатрапаў 10.III.1864 г. у Вільні. Ушаноўваючы памяць героя жыхары Мастаўлян прысвойваюць школе яго імя. Сакавік 1959". Школе ў Мастаўлянах урачыста прысвойваецца імя КА-



Ужо сабрана 111.765 зл на пабудову Дома Помніка К. Каліноўскаму у Беластоку

Як паведамляе Грамадскі Камітэт пабудовы Дома-Помніка К. Каліноўскаму, у Беластоку, ужо сабрана на пабудову гэтага дома 111.765 зл. у тым ліку Камітэт атрымаў 100.000 зл ад Прэзідыума Ваяводскай рады народовай.

Чытачы! Складайце добраахвотныя складчыны на пабудову Дома - Помніка.

Konto PKO 12-9-313 w Białymstoku

СТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА. Старшыня ПРН гр. Стшалкоўскі віншуе кіраўніка школы са знамянальнай падзеяй і ўручае школьнікам партрэт Кастуся Каліноўскага, з пажаданнямі поспехаў у жыцці і вучобе. У адказ на словы старшыні ПРН школьнікі запэўніваюць, што прысваенне школе імя КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА адзначаць яшчэ лепшымі поспехамі ў вучобе. На гэтым заканчваецца афіцыйная частка мітынга. На прышкольным пляцы пачынаецца мастацкая частка, у якой прыняў удзел калектыў ГП БГКТ з Беластока, мастацкі калектыў пры ПДК у Міхалове, калектыў з Гарадка і іншыя. Да позных гадзін прадаўжаецца народнае гулянне. Да ўвагі ўдзельнікаў рэчавая і кніжная латарэі, буфет і іншыя мерапрыемствы. Радасна сустрэлі і весела правялі слаўны юбілей 15-годдзя нашай дзяржавы жыхары Мастаўлян і аколіц".(„Ніва" № 31.1959)

У 1963 г. паявілася ідэя стварэння ў Гайнаўцы музея імя Канстанціна Каліноўскага. На старонках «Нівы» быў надрукаваны заклік да чытачоў збіраць экспанаты матэрыяльнай культуры паўднёва-ўсходняй Беласточчыны. Г. Валкавыцкі ўспамінае, што праектам пабудовы цікавіўся таксама І сакратар ВК ПАРП у Беластоку Аркадзь Лашэвіч. У 1964 г. аказалася, што на пабудову дома-помніка ў Беластоку сабралі замала грошай. Г. Валкавыцкі ўспамінае: „Няўдачай закончылася ініцыятыва пабудовы дома-помніка Кастусю Каліноўскаму ў Беластоку. Сабралі ўсяго 140 тысяч злотых. Сума не павялічвалася, і старшыня пабудовы (ён жа і старшыня ВК ФАН) Станіслаў Юхніцкі вызначыў на 10 верасня хаўтуры: „Na posiedzeniu tym będzie podjęta decyzja odnośnie wykorzystania zebranych pieniędzy i ustalenia daty likwidacji działalności Komitetu". Заснавалі мы камітэт прылюдна і з фанфарамі, зматвалі вудачкі ціха і сарамліва ў цесным пакойчыку-кабінеце старшыні Беластоцкага жыллёвага кааператыва на алеі 1 Мая, 20. У той час Гарадок вяршыў свой прыгожы пачын —

пабудову дома культуры.

Не хапала грошай на абсталяванне бібліятэкі і чытальні. Мы і прапанавалі перадаць сабраныя ахвяраванні гарадоцкаму камітэту. Той, у сваю чаргу, абавязаўся назваць „Дом" імем слаўнага земляка. Так яно і сталася. Шырока адгукнуўся ніўскі заклік збіраць кніжкі для Гарадка". Аб перадачы сабраных сродкаў на бібліятэку і чытальню інфармавалі ў «Ніве» № 44: „Улічваючы грамадскую ініцыятыву і прызначэнне аб'екта, Камітэт пабудовы помніка Кастусю Каліноўскаму вырашыў прыйсці з дапамогай гарадчанам і перадаў на Дом культуры ў Гарадку 140 тыс. зл. Нядаўна прэзідыум гэтага Камітэта пабываў у Гарадку і супольна з Камітэтам будовы дома культуры абмеркаваў мэту выкарыстання перададзеных на Дом грошай. Было вырашана, што пойдуць яны на абсталяванне бібліятэкі і чытальні. Пастаноўлена таксама назваць Дом культуры ў Гарадку імем Кастуся Каліноўскага і стварыць у Доме куток, прысвечаны нашаму слаўнаму земляку. Гэтыя пастановы заслугоўваюць усебаковай падтрымкі. Як месца, так і аб'ект, выбраны вельмі трапна. Гарадок — гэта ж амаль бацькаўшчына Кастуся Каліноўскага. Тут асабліва жывымі з'яўляюцца слаўныя традыцыі вялікага барацьбіта за „нашу і вашу свабоду". Нездарма ў часы гітлераўскай акупацыі мясцовы партызанскі атрад меў імя Кастуся Каліноўскага". Урачыстае адкрыццё Дома культуры запланавалі на гадавіну кастрычніцкай рэвалюцыі — на 7 лістапада. Перанеслі яго аднак на 1965 год, з-за незавяршэння кіназалы: „Камітэт пабудовы Дома культуры вырашыў цяпер крыху пачакаць і зрабіць урачыстасць адкрыцця, калі будзе гатовы цэлы аб'ект. Па-другое, вырашана адпаведна падрыхтавацца і да самой урачыстасці. Між іншым, складаецца мастацкая праграма, у якой ганаровае месца зойме постаць Кастуся Каліноўскага. Калі будаўнікі стрымаюць слова, адкрыццё дома-помніка можна будзе прыўрочыць да 127 гадавіны з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага (21 студзеня 1965 г.)". Канчатковa адкрыццё Дома культуры ў Гарадку адбылося 5 чэрвеня 1965 г.: „Фінал высакароднага грамадскага пачыну — урачыстае адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага. Прыгожы, добра абсталяваны культурны аб'ект — гордасць гарадчан — пабудаваны пры выдатнай дапамозе мясцовага насельніцтва. Будзе служыць Гарадку і цэлай аколіцы. Будзе ўшаноўваць імя слаўнага сына Беластоцкай зямлі, выдатнага правадыра студзеньскага паўстання, палымянага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага. А гэта імя забавязвае» («Ніва» № 47/1964) . У фае паставілі гіпсавы бюст К. Каліноўскага. Віктар Швед прысвяціў верш будаўнікам ДК імя Каліноўскага ў Гарадку: *З бацькоўскай вёскі Мастаўляны/ Мо і не раз праз Гарадок/ Ішоў з наборам палымяным/ „Мужыцкай праўды" ў Беласток...*

Пад канец 1964 г. на старонках «Нівы» вялася акцыя збору кніжак для бібліятэкі Дома культуры ў Гарадку, якая працягвалася год. Друкаваліся прозвішчы ахвяравальнікаў і загалоўкі падараваных кніг. Сярод ахвяравальнікаў былі між іншымі Ларыса і Янка Геніюшы з Зэльвы (падаравалі м.інш. „Туристские маршруты по Белоруссии", „Наша родная мова" А. Крывіцкага, „Нагбом" Рыгора Барадуліна, „Віленскія камунары", „Новую зямлю" і „Сымона Музыку" Я. Коласа, „Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года" Ф. Смірнова). 12 чэрвеня 1966 г. Дом культуры ў Гарадку ўрачыста назвалі імем Канстанціна Каліноўскага, адкрываючы мемарыяльную дошку. Урачыстасць спалучылі з 21 гадавінай стварэння беластоцкай часці Памежных войск: „Найперш жыхары Гарадка сабраліся ў кіно дома культуры. Урачыстае пасяджэнне адкрыў сакратар прапаганды Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку тав. Аляксандр Давідзюк. Выступіў таксама афіцэр Польскага Войска. Затым гарцэры гарадоцкай школы прывіталі гасцей. І тады наступіў найбольш урачысты момант: намеснік старшыні прэзідыума ПРН у Беластоку тав. Тадэуш Вонсэк зняў заслону з табліцы з імем Кастуся Каліноўскага", — пісаў Віктар Рудчык, і тлумачыў: „Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў вёсцы Мастаўляны, адкуль у Гарадок амаль рукой падаць — усяго 15 кіламетраў. Значыць, правадыр паўстання з 1863 года ў Беларусі і на Літве з'яўляецца для жыхароў Гарадка проста земляком. Ёсць тады чым ганарыцца, і нездарма папрасілі яны Міністэрства культуры і мастацтва, каб менавіта гэтае імя прысвоіць свайму дому культуры".

У васьмідзясятыя гады зліквідавалі школу ў Мастаўлянах, а будынак знішчэў. Двухмоўную табліцу ўратаваў і захаваў Багдан Дудко з Цісоўкі Міхалоўскай гміны. Дом культуры таксама не надта паказваўся са сваім патронам — не ўзнік там мемарыяльны пакой ці хаця б невялікая музейная экспазіцыя, а бюст правадыра паўстання, які стаяў у яго фае, разбіты, апынуўся на сметніцы... А партрэт трымаў у сябе Янка Карповіч, родам з Меляшкоў.

**Міраслава КАСТАНЧУК**


Бітва пад Оршай

# НАТАТКІ З ПАЕЗДКІ Ў ГІСТОРЫЮ

Роўна 500 гадоў таму найвышэйшы гетман Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Іванавіч Астрожскі па выніках бітвы 1514 г. пад Оршай, на рацэ Крапівенцы вызваліў сучасную тэрыторыю ўсходняе Беларусі ад непрыяцеля — Маскоўскае дзяржавы. Затым ён аблажыў Смаленск, але авалодаць горадам у яго не хапіла сілаў. Дыпламатычныя колы ўдала выкарысталі Аршанскую перамогу. Аўстрыйскі эрцгерцаг, імператар Максіміліян І адмовіўся ад блёку з Масквой, у выніку чаго іх кааліцыя распалася. На Венскім кангрэсе 1515 г. Ягайлавічы і Габсбургі прыйшлі да поўнага паразумення. Максіміліян І абяцаў дапамагаць Жыгімонту І Старому ў прымірэнні з Васілём ІІІ — маскоўскім царом. На працягу трох гадоў пасля Аршанскае перамогі ваенныя дзеянні вяліся стрымана — гэта былі асобныя рэйды ў глыб чужое тэрыторыі.

Не забудзем, што бітва 8 верасня 1514 г. была ў часе чацвёртае вайны Маскоўскае дзяржавы з ВКЛ (1512-1522 гг.). Яшчэ перад вайной цар Васіль ІІІ заручыўся падтрымкай Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў. На пачатку 1514 г. утварылася ваенная кааліцыя супраць ВКЛ і Кароны Польскае, у якую, акрамя Свяшчэннае Рымскае імперыі, увайшлі яшчэ 5 еўрапейскіх краін. Адбыліся тры паходы Васіля ІІІ на Смаленск — зімой 1512/13 гг., у чэрвені — лістападзе 1513 г., у канцы траўня — ліпені 1514 г. і толькі тады (31 ліпеня) Смаленск капітуляваў. Летам 1517 г. пасольства Жыгімонта І у Маскву спрабавала дамовіцца пра спыненне вайны, але пазіцыі абодвух бакоў былі ўзаемна непрымальнымі і ваенныя дзеянні ізноў актывізаваліся. Да таго ж: у 1519 г. на баку Маскоўскае дзяржавы выступіў Тэўтонскі ордэн; у ліпені 1519 г. на тэрыторыю ВКЛ уварвалася войска Крымскага ханства. Тэўтонцы былі пераможаныя, а з ханствам было падпісанае замірэнне. І гэта змусіла Васіля ІІІ весці перамовы з ВКЛ. Пагадненне 1522 г. мела кампрамісны характар і прадугледжвала перамір'е тэрмінам на 5 гадоў (пасля чаго меркавалася падпісаць «вечны мір»). Смаленск застаўся ў Маскоўскай дзяржаве, шматлікі «маскоўскі палон» — у Вялікім Княстве.

Не маючы сродкаў на святкаванне 500-годдзя бітвы на рацэ Крапівенцы, я паказаў жыхарам Расіі (у дадзеным выпадку — Пецярбурга) «беларускую сталіцу Вільню». Тут мы і адсвяткавалі гэтую дату.

У суботу, 6 верасня, мы сабраліся ў памяшканні царквы св. Тройцы ў Базыльянскіх мурах Вільні. Тут былі прадстаўнікі беларускае і ўкраінскае інтэлігенцыі, госці з Мінска і іншых гарадоў былога Вялікага Княства. Гэты храм (узведзены К. Астрожскім у гонар Аршанскай перамогі) — зараз ізноў уніяцкі. А ўніяцтва (як мы ведаем) злучае і ўкраінскі народ і беларускі народ у дзве вялікія супольнасці, кожная з якіх мае свае багатыя традыцыі і духоўныя каштоўнасці перад прадстаўнікамі іншых народаў Еўропы. Мы паслухалі малебен — на ўкраінскай і беларускай мовах, памаліліся самі, засталіся вельмі ўдзячныя шчырым пажаданням абодвух святароў шчаслівае лепшае долі для ўсіх набажэнцаў і для абедзвюх краін.

Затым зрабілі даволі працяглы шпацыр па старой Вільні — аж да Лукішак. Тут, ля мемарыяльнага знака паўстанцам 1863 года Зыгмунту Серакоўскаму і Кастусю Каліноўскаму (на Лукішскім пляцы) мы ўсклалі кветкі ў памяць змагароў за лепшы лёс беларусаў. Пасля ўшанавання памяці герaічных продкаў мы тралейбусам накіраваліся на сядзібу Таварыства беларускае культуры ў Літве. Ужо на месцы, на добра зладжаным пасяджэнні, запомніліся цудоўныя, шчырыя выступленні Хведара Нюнькі, Алеся Адамковіча, іншых прамоўцаў. Былі размовы, гутаркі, фатаграфаванне. Святкаванне скончылася бліжэй да вечара.

Наша «пецярбургская дэлегацыя» (пасля паездкі ў старажытную сталіцу ВКЛ Кернаў) адзначыла яшчэ раз дзень перамогі на Крапівенцы якраз у панядзелак, 8 верасня, у адным з рэстаранаў блізу былое знакамітае кавярні «Чырвоны Штраль», дзе ў свой час наш славуты дзеяч Іван Луцкевіч на пачатку XX стагоддзя прыняў рашэнне, што беларусам трэба дабівацца свае ўласнае дзяржавы.

Паездка на Беласточчыну планавалася мной адразу. Сюды я прыехаў з Вільні ўжо адзін. Наведаў (акрамя Беластока) Саколку, Крынкі, Монькі, затым Гайнаўку, Бельск і Браньск. Самыя цёплыя ўражанні і ўспаміны — ад Іаанны Чабан (найвялікшая падзяка за цудоўны прыём), Тадэвуша Скутніка, Аляксея Харкевіча, Ангеліны Масальскай, Яўгена Якубоўскага, Збігнева Раманюка, Дарафея Фіёніка, Аляксандра Харкевіча (апошняму — асаблівая падзяка). У паездках мне асабліва актыўна дапамагалі спадары Вінцэнт Януцік і Ян Паўлючук. Вельмі-вельмі ім я ўдзячны.

На працягу ўсяго майго падарожжа развівалася думка, якая ўзнікла яшчэ ў Вільні, у рэдакцыі газэты «Lietuvos rytas». Трошкі вам навуковае тэрміналогіі. Нам з вамі добра вядома, што ліцьвінамі называюць беларусаў у Вялікім Княстве Літоўскім. Але ў свой час, недзе гадоў 9 таму, у Вільні ў прыватнай размове з Альмай Лапінскене (старшынёй Асацыяцыі беларусістаў Літвы) яна даводзіла мне, што ліцьвіны — гэта і літоўцы, жыхары ВКЛ. Размова ў памяці засталася, але не болей таго. Апошнімі гадамі, у сучасных беларускіх публіцыстаў, праходзіць тэрмін летувяй (як літоўцаў — жыхароў ВКЛ). Вось у рэдакцыі «Lietuvos rytas» і сказалі мне, што сучасныя літоўцы прымаюць гэты тэрмін. І далей (уважліва!): ім тэрмін ліцьвіны «прышпілілі» польскія навукоўцы. І гэтым стварылі (П. А.) вялікую блытаніну.

Давайце падумаем разам з польскімі лінгвістамі: як развесці па правілах польскае граматыкі тэрміны: «ліцьвіны — сучасныя літоўцы» і «ліцьвіны — сучасныя беларусы»? Блытаніна ніколі нікому не дапамагае ў сумленнай навуцы і ў цывілізаваным паўсядзённым жыцці.

Цудоўна разумею, што сёння быць беларусам стала прафесіяй (гэта мне трапна сказалі на Сакольшчыне): «з грашыма я згоден быць беларусам (калі мне за гэта плацяць)». Астатняя ж няхай «спяць у шапку». Але асабіста для сябе я гэтага аніколі не прыму. І да такіх «прафесіяналаў» я не буду звяртацца. Тыя ж людзі, якія жывуць беларушчынай (а яны ёсць, існуюць і ніколі не зніknуць), павінны вырашаць пытанні і нават такіх дробязей, як блытаніна тэрмінаў Літва, Русь, Белая Русь, ліцьвіны і беларусы.

Паездка запомніцца надоўга. Уражанняў маецца шмат, успаміны застаюцца самыя цёплыя. Было на што паглядзець і чаму павучыцца — я жывуць мясцовыя беларусы.

**Пётра АМБРАСОВІЧ**
**Санкт-Пецярбург**

Барыс Руско

## Афарызмы

Скальпелем гадоў
не вылушчыш.

*

Калі сонца заплюшчвае вочы,
балююць зоркі.

*

Крапілам гуза не вымяцеш.

*

З кінутых на вецер слоў узнікае
смерч.

*

Зямля, круцячыся,
забаўляецца ў бляскі і цені.

*

Вясёлка — калье на шыі неба.

*

Час — зубы ўсёеднай натуры.

*

Усмешка — найлепшая губная
памада для жанчыны.

*

Алюзія — пстрыканне
ў пальчатках.

*

Ангелы — цені ценяў.

*

У мудраца-аскета розум цяжэйшы за цела.

*

Тыранія мае колер
спапялёных касцей.

*

Праўда не сцяна, шпалерамі не
ўпрыгожыш.

*

На градцы паэзіі цвітуць залатыя
думкі.

*

Жыць і не грашыць зможа толькі
дрэва.

*

У агні сваркі розум становіцца
попелам.

*

Карупцыя гэта звычайны ўдаў.

*

Чорная дзірка — вампір,
які корміцца крывёй зоркі.

*

Космас — кніга, напісаная
складамі здарэнняў.

*

Святло з'яўляецца ўказальным
пальцам.

*

Колеры жыцця ў руках лёсу,
адценні — у руках нашых.

*

Крывёй не патушыш пажару.

*

На шкілетах не дабяжыш
да мэты.

**Пераклад з польскай мовы**
**Віктара Шведа**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Як спадабацца сяброўкам?

На Падляшшы ўсе ведаюць кніжку „Мышку Пік-Пік”. З прыемнасцю паведамляем, што яе героі — сімпатычныя грызуны, атрымалі новае жыццё ў літаратуры. Дзіцячая кніжка „Пацучок Фэлік падарожнічае” Алены Масла, захапіла ўжо тысячы дзяцей у Беларусі. Галоўны герой — пацучок Фэлік, гэта маленькі хлапец, якога кожны з нас хацеў бы запрасіць да сваіх сяброў на фейсбуку. Ён летуценнік, марыць пра незабыўныя падарожжы. Аднойчы цішком ён выбіраецца з сутарэнняў у вялікі свет. Вялікі свет — гэта Менск, самы прыгожы і цікавы горад у свеце. Фэлік падарожнічае на чорным джыпе ў скрытым ля рухавіка машыны. Там ён арганізаваў сваю кватэрку, якую прыаздобіў вышыванай пасцелькай і фотаздымкам сям'і.

Маршрут Фэліка абірае гаспадыня джыпа, якая падобная на нашых матулі. Яна наведвае цырульню, каб зрабіць модную прычоску, ідзе з сяброўкамі ў кавярню з'есці марозіва, або едзе ў гандлёвую галерэю на шопінг. Фэлік не дрэмле ў падарожжы, ён сам знаёміцца з модніцамі Ларыскай і Аніскай. І менавіта гэтыя пацучкі-дзяўчаткі натхняюць яго, каб быць сапраўдным хлопцам! Фэлік робіць немагчымае, каб спадабацца сяброўкам. Яны адразу прыкмячаюць у ім рыцара, ды кожная з іх хоча заваяваць яго сэрца...




Як скончыцца гэтае спаборніцтва?.. Ці знаёмства пацучкоў атрымае сардэчны працяг, ці можа скончыцца вайной, зайздрасцю і варажнечай? Пра ўсё гэта распавядзе нам таленавітая Алена Масла ў кніжачцы „Пацучок Фэлік падарожнічае”. Выданне, як належыць свету метраполіі, густоўна і каларытна аформленае. Спадзяемся, што модныя прычоскі і апранахі нашых Аніскі ды Ларыскі, якія размаляваныя мастаком Марыяй Каратаевай, могуць стаць для нас натхненнем і інспірацыяй. Нам спадабалася багацце мовы, дзе шмат-шмат новых сучасных слоў з гарадскога свету. З прыемнасцю інфармуем, што дзіцячую кніжку „Пацучок Фэлік падарожнічае” можна яшчэ выйграць у „Зорчыных” конкурсах!

**ЗОРКА**

Алена Масла, *Пацучок Фэлік падарожнічае*, Мінск „Выдавецкі дом «Звязда»”, 2013.

*Паўліна ЛАЎНІЧУК,*
*Бандары, школа ў Міхалове*

## Восень

*Акно – а за ім восень*
*Вецер – вее, вее*
*Дрэвы – лісце паспадала*
*Дождж – часта ідзе*
*Людзі – цёпла апранаюцца*
*Грыбы – усе іх збіраюць*
*Звяры – рыхтуюцца да зімы*
*У вырай – адлятаюць толькі птушкі*

*Оля ДЗЕВЯТКОЎСКАЯ,*
*Новая Воля,школа ў Міхалове*

## Кастрычнік

*Кастрычнік намалюе*
*Усе бярозы, дубы, грабы,*
*Дождж проста ідзе, ідзе, ідзе...*
*А лісце з дрэў сыплецца, сыплецца...*

*Наталля МАРЧУК, Нараўка*

## Восень

*Прыйшла восень,*
*Дрэвы засынаюць*
*І пакідаюць сваіх дзяцей – лісце.*
*Потым прыйдзе*
*Хуткім крокам зіма*
*І прыкрые пакінутых восенню дзетак*
*Белай пярынкай.*

# Пашыраюць небакрай!

Фота Улі ШУБЗДЫ




Маюць энергію, сілу і глыбокае перакананне, што гміна іх патрабуе! Ліцэісты з Дубровы-Беластоцкай заснавалі свой выбарчы камітэт і будуць прымаць удзел у сёлетніх выбарах у гарадскую раду.

— Напачатку гэта мела быць толькі гульня на занятках па ведах аб грамадстве, — кажа Матэвуш Беламызы, адзін з заснавальнікаў выбарчага камітэта, — аднак пазней мы пераканаліся, што гэта магчымасць для нас, каб выкарыстаць свае веды на практыцы.

„Справядлівая моладзь” — так называецца выбарчы камітэт, які мае ўжо распрацаваныя планы дзеля лепшай будучыні сваёй гміны.

— Хочам перш за ўсё звярнуць увагу на праблемы моладзі, — кажа Матэвуш Беламызы. — Наша гміна не выкарыстоўвае патэнцыялу маладых людзей, якія сапраўды маюць цікавыя прапановы і свой погляд на многія пытанні.

Ліцэісты прыдумалі ўжо свой выбарчы лозунг, які гучыць: „Пашыраем небакрай. Стаўляй на моладзь!”. Маладыя палітыкі перакананыя, што выбарцы ў падобным узросце аддадуць свой голас за кандыдата з іхняга камітэта.

— Мы хочам здабыць адзін мандат у гарадской радзе, — кажа Матэвуш. — Думаю, што мы маглі б унесці новы, свежы погляд на турбуючыя гміну пытанні.

Маладыя палітыкі працягваюць выбарчую кампанію і з нецярпеннем чакаюць вынікаў! Магчыма з лістапада ў гарадской радзе горада Дуброва-Беластоцкая з'явіцца дэпутат Матэвуш Беламызы са „Справядлівай моладзі”.

**Уршуля ШУБЗДА**

# Як Чалавек Перамог Усіх Звяроў

*(кабардзінская казка)*

Было гэта даўным-даўно, калі на зямлі толькі што з'явіліся звяры і людзі. Сабраліся звяры і гадаюць:

— Ты, рыба, пад вадой плаваць будзеш. Ты, павук, дзень і ноч сеці плесці будзеш. Ты, воўк, будзеш у лесе жыць, людзей палохаць. А ты, леў, з нас усіх найдужэйшы, царом звяроў будзеш.

Пачалі звяры думаць каму розум аддаць.

— Давайце аддадзім розум чалавеку, — сказаў леў. — Мне розум непатрэбны, я сілу маю.

Тут жа пачулі звяры стук сякеры. Бачаць — чалавек дрэва рубае.

— Зараз я яго з'ем, — кажа леў.

Чалавек гучна рассмяяўся:

— З чаго так смяешся? — пытае леў. — Я ж не жартую, я прыйшоў цябе з'есці.

— Смяюся з тваёй дурноты, — кажа чалавек. — Я прыйшоў дапамагчы табе, а ты збіраешся мяне есці. У цябе шмат ворагаў, зайздроснікаў, якія баяцца тваёй сілы. Табе патрэбны схоў, каб схавацца, калі яны прыйдуць на цябе з вайной. Вось, я хачу збудаваць табе такую скрытку.

— Я не ведаў пра ворагаў, — адказаў леў. — Добра, рабі для мне схоў.

Чалавек збудаваў вялікую клетку.

— Паглядзі, цар звяроў, што я збудаваў для цябе!

І чалавек заклікаў ільва, каб залез у сярэдзіну. Той увайшоў і пытае:

— І як? Ці бачыш мяне звонку?

— Забяры яшчэ хвост, тады зусім схаваешся.

Леў загроб пад сябе хвост, а чалавек раз-раз закрыў клетку і кажа:

— Бачыш, леў, адной сілай нічога не зробіш, калі ў цябе розуму не хапае.

Зароў леў, пачаў клікаць на дапамогу звяроў.

А звяры ад страху разбегліся. Так чалавек перамог усіх звяроў.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



Малюнак: Агнешка Петручук (ПШ у Нарве) і Юліта Грыка (Гімназія ў Міхалове)

# Вершы Віктара Шведа

## Купі новы тэлевізар

— У тэлевізары я чуў,
Што будзе добрая пагода.
А тут раптоўна дождж лінуў,
Для мяне ён перашкодай.

— Казаў табе я, татулёк,
Каб больш не было капрызы,
Каб без патрэбы я не мок
Купі новы тэлевізар.

## Англійская мова

— Тата, хачу цябе спытаць
Ці будзе гэта толковым,
Калі я буду вывучаць
Знoўку англійскую мову?

— Хачу адказаць я гэтак
Табе, сыночак нядбалы:
Гавораць на ёй паўсвету.
— Дык няўжо гэтага мала?

## Лагічны выбар

Бацькі, што разлучаюцца
Злаславіа і ахвоча,
Сынка свайго пытаюцца:
— З кім жыць далей ты хочаш?

Сыночак засяроджаны
У бацькоўскае калізіі
Сказаў: — З узнагароджаным
Сямейным тэлевізарам.

## Не грызі косткі

Маці да падростка
Кажа: — Мілы Якаў,
Не грызі ты косткі
Быццам бы сабака.

Як я гэта бачу
Глядзець проста гадка.
Ты костку сабачу
Аддай свайму татку.



У Бабіках

# Увага, конкурс!!! (№ 41-14)

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 26 кастрычніка, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Да яліны, да сасны**
**доктар прыляцеў лясны.**
**Паялчыў сасну, яліну**
**і высокі бор пакінуў,**
**паляцеў у той лясок,**
**дзе бярозавы піў сок.**
**(дз....)**

**2.**

**З ялінкі на ялінку,**
**з галінкі на галінку**
**скача агеньчык жывы...**
**Хто гэта —**
**Ведаеце вы?**
**(в......)**

**3.**

**І ў сто гадоў я малады.**
**Маё насенне — жалуды.**
**(д..)**

Іза БАРОЎСКАЯ, *Нараўка*

# Восеньскі лісток

Верасень, кастрычнік, лістапад.
Ужо першы лісток апаў.
На дрэвах усе каляровыя лісточкі.
Птушкі ад нас адлятаюць,
Другія прылятаюць
І весела нам спяваюць.
Мы гэты спеў любім,
Птушачак галубім.

# Польска-беларуская крыжаванка № 41

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 38:**

Клас, спорт, рыжык, ар, кукуруза, то, жар, тыгр, вока, кошык, ява. Кружок, лыжка, ажур, сыр, вы, куток, Ас, зык, Прага, брат, тройца.

**Узнагароду, *навейшы кампакт-дыск Тацяны Беланогай „Святло і цені"*,** выйграла ***Юліта Грыц*** *з Гімназіі ў Міхалове.* Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Zabawka | | Grupka | | | | | | |
| | | | Pogoń / Jepp | Samo-głoska | | Nika | | Aromat |
| Mag / Cud | | | | Łyko | | | | |
| | | | | | | Ar | | |
| Karyka-tura | Ty | | | Ina | | | Si | |
| Zakupy w galerii | | | | | | | Gra | |
| | | | Nerka | | | | | |
| Mak | | Balon | | | | | | |

№ 41 [12-10-2014]

# Таварыства беларускай школы на Беласточчыне

## З хронікі дзейнасці ТБШ у 1920-х—1930-х гадах

Культурна-асветная арганізацыя Таварыства беларускай школы (ТБШ) у Заходняй Беларусі была створана 1 ліпеня 1921 года.

ТБШ імкнулася распаўсюджваць асвету сярод беларусаў, пашыраць беларускія школы і дапамагаць настаўнікам. Асноўная мэта дзейнасці была абвешчана ў Статуце: «пашыраць і памагаць асвеце ў беларускім нацыянальным, людскім і хрысціянскім духу».

Таварыства адкрывала і ўтрымлівала народныя школы і дамы, курсы, настаўніцкія семінары, чытальні-бібліятэкі, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, выдавала часопісы, падручнікі і іншую літаратуру, займалася канцэртнай дзейнасцю. ТБШ выступала супраць паланізацыі, сацыяльнага прыгнёту, праводзіла шырокую дзейнасць па адкрыцці беларускіх школ, павышала агульнаадукацыйны і культурны ўзровень насельніцтва, яго нацыянальную свядомасць.

2 снежня 1936 года ТБШ польскімі ўладамі было забаронена. Але за гэтыя 15 гадоў ТБШ у Заходняй Беларусі ажыццявіла шмат сваіх добрых спраў, праектаў, мэт.

Асабліва актыўным было ТБШ у тыя гады на Беласточчыне. Магчыма некалі пра яго дзейнасць і актывістаў напішацца добрая кніга. А сёння давайце пагартаем некаторыя асобныя старонкі ТБШ.

### 1929 год

8 снежня ў Беластоку адбыўся агульны з'езд ТБШ Беластоцкага і Сакольскага паветаў. З'езд адбыўся ў Беластоцкім народным доме, які адбудавалі сябры ТБШ на свае ўласныя сродкі. У з'ездзе прымалі актыўны ўдзел паслы Беларускага сялянска-работніцкага клуба Ігнат Дварчанін і Флягонт Валынец, якія шчыра віталі ўдзельнікаў з'езду.

Пасля розных выступленняў і спрэчак, спадары Пяткевіч і Лябецкая выступілі з рэфератамі. Яны прачыталі лекцыі на тэмы „Беларусь мінулая і сучасная — гістарычна-геаграфічны агляд" і „Жанчына ў грамадскім жыцці".

На з'ездзе прысутныя паглядзелі п'еску „Антось Лата" Францішка Аляхновіча, а хор праспяваў шмат беларускіх песень. Сам з'езд, а таксама спектакль прайшлі на вышэйшым узроўні. Аб гэтым нават пісала заходнебеларуская прэса. Адчувалася, што яго арганізатары на гэта прыклалі шмат высілкаў.

ТБШ у Беластоку на той час кіраваў Нікіта Федарук. Пры ўдзеле Таварыства ў ліпені быў створаны Выдавецка-асветніцкі кааператыў „Рунь". У Беластоку ў гэты час узнікла і кнігарня з беларускімі выданнямі. Хаця ТБШ у Беластоку тады адышло ад палітыкі, польскія ўлады ўсё ж пазней ліквідавалі кааператыў, а потым і ТБШ.

### 1932 год

Вялікай падзеяй у гісторыі ТБШ на Беласточчыне стаў Акруговы з'езд Сакольшчыны, Ваўкавышчыны і Беласточчыны, які адбыўся 20 лістапада. На з'езд з'ехаліся 56 дэлегатаў ад 17 гурткоў ТБШ і 6 гасцей. Апрача таго на Акруговы з'езд ТБШ былі запрошаны прадстаўнікі мясцовай адміністрацыі, а таксама ад ваяводства пан Высокінскі. Ад Галоўнай управы ТБШ на з'езд прыехалі і прынялі ў ім удзел Мікалай Марцінчык і Піліп Кізевіч.

Старшыня Беластоцкай акруговай управы Язэп Грэсь выступіў са справаздачай аб працы Акруговай управы. Ён адзначыў, што нягледзячы на розныя перашкоды ўлады, сябры ТБШ у Беластоцкай акрузе зрабілі шмат на культурнай і арганізацыйнай ніве. „Сёння ў Беластоцкай акрузе налічваецца 23 дзейных гурткоў ТБШ з 604 сябрамі, — адзначыў у сваім выступленні Язэп Грэсь. — Дзейнічае 10 бібліятэк-чытальняў, 15 народных дамоў. Драматычнымі секцыямі пастаўлены 36 спектакляў, з якіх — 14 забаронена. Дзейнічаюць 2 радыёапараты. Усе гурткі ТБШ вызначаюцца вялікай працаздольнасцю" („Наш бюлетэнь", 30 лістапада 1932 года).

Цікава тое, што „Наш бюлетэнь" за 30 лістапада 1932 года апублікаваў зусім іншую справаздачу ў лічбах аб дзейнасці ТБШ на Беласточчыне. Яна значна адрозніваецца ад той, з якой выступаў Язэп Грэсь. Аказваецца, на 30 лістапада 1932 года ўсіх гурткоў разам з Беластокам на Беласточчыне налічвалася 16, куды ўваходзілі 460 сяброў, дзе на адзін гурток прыпадала прыблізна па 29 сяброў. Гэта былі даволі добрыя паказчыкі, бо многія гурткі ТБШ мелі толькі па 10 сяброў. Найбольш ТБШаўцаў было ў Белявіцкім і ў Гарадоцкім гуртках — па 51 чалавеку, а ў самім Беластоку — 23. З агульнага ліку 460 чалавек, якія ўваходзілі ў ТБШ — 52 жанчыны, па сацыяльным становішчы — 300 сялян. 9 гурткоў мелі тады бібліятэкі-чытальні з 1807 паасобнікамі кніг, 5 гурткоў мелі драматычную і харавую секцыі, 5 — толькі драматычную, а гурткі ў Гарадку і ў Міхалове мелі драматычную, харавую секцыі і аркестры. У 9 гуртках практыкавалася пазашкольнае навучанне на роднай мове. Гурткі паказалі 23 спектаклі, з якіх 14 былі забаронены.



Здымак публікуецца з брашуры *В семье единой* (Слонім 1989). Пад здымкам напісана: Першы з'езд ТБШ Заходняй Беларусі ў Беластоку



Актывістка ТБШ са Слонімскага павета Алена Лябецкая, якая часта выступала на Беласточчыне з дакладамі ў 1930-х гадах

Пасля выступлення на Акруговым з'ездзе ТБШ Язэпа Грэся былі заслуханы справаздачы Беластоцкага, Гарадоцкага, Меляшкоўскага, Белявіцкага, Міхалоўскага, Нававольскага, Залуцкага, Тапільскага і Зачарлянскага гурткоў. Усе выступоўцы адзначалі, што ў тых умовах, у якіх прыходзіцца працаваць, зроблена даволі шмат. На з'ездзе была прынята пастанова аб большым наладжванні сярод вяскоўцаў і гараджан чытання лекцый, рэфератаў і вячэрніх заняткаў.

Вечарам Беластоцкі гурток ТБШ паказаў спектакль „Птушка шчасця" па п'есе Францішка Аляхновіча, а таксама канцэрт хору ТБШ. Усе выступленні мелі вялікі поспех.

Яшчэ да Акруговага з'езду ТБШ 21 кастрычніка Галоўная ўправа ТБШ выслала пану старасту Сакольскага павета паведамленне аб тым, што ў вёсцы Боркі вяскоўцы хочуць стварыць гурток ТБШ. Жадаючых ужо было 22 чалавекі, з якіх — 17 сялян.

„Бюлетэнь ТБШ" ад 28 верасня 1932 года паведамляў, што Гарадоцкая гмінная ўправа ТБШ Беластоцкага павета налічвае 196 сяброў, з іх — 35 кабет. Сюды ўваходзілі 6 гурткоў: Гарадоцкі, Валілаўскі, Белявіцкі, Меляшкоўскі, Зарэчанскі, Пяшчаніцкі, Залуцкі і Навасёльскі.

На адным са сходаў ТБШ у вёсцы Пяшчанікі яго сябры пастанавілі напісаць і аддаць старасту прашэнне, каб той дазволіў склікаць сход сялян вёскі Пяшчанікі з мэтай зрабіць спісы дзяцей школьнага ўзросту і паруціцца аб адкрыцці пачатковай беларускай урадавай школы.

А на Вялікдзень у вёсках Залукі і Меляшкі былі паказаны спектаклі. Залы былі перапоўнены. Сябры ТБШ ад спектакляў атрымалі даходы: у Залуках — 40 злотых, у Меляшках — 80 злотых.

Беластоцкая акруговая ўправа звярнулася да сакольскага старасты, каб той дазволіў арганізаваць гурток ТБШ у вёсцы Боркі. Але стараста адмовіў, матывуючы тым, што гэта вёска не належыць да „поля працы" Беластоцкай акруговай управы.

Сяляне з вёскі Навасёлкі Беластоцкага павета 24 ліпеня 1932 года звярнуліся з пісьмом у Галоўную ўправу ТБШ. Яны прасілі ўправу даслаць ім 80 буквароў, каб навучаць дзяцей па-беларуску. Галоўная ўправа ТБШ шчыра вітала такую ідэю і даслала сялянам адказ. У адказе вяскоўцы прачыталі, што „каб стаць больш-менш граматным, трэба прайсці не адну толькі самую пачатковую кніжку, а некалькі, разлічваючы пры гэтым не на адзін год працы, а найменш на два-тры гады сталай, упартай працы „саматугам" ці пад нейкім кіраўніцтвам".

Далей сябры Управы напісалі пра поўны камплект кніжак для таго, каб стаць граматным. І па адным асобніку падручнікаў выслалі сялянам у вёску Навасёлкі.




Вокладка часопіса з партрэтам Пятра Першукевіча

### 1933 год

Напачатку калядных канікулаў Беластоцкая акруговая ўправа запрасіла студэнтаў Віленскага ўніверсітэта Марыю Мілючанку (Мілюць), Пятра Чэчку і Пятра Першукевіча, а таксама студэнта Варшаўскага ўніверсітэта Мікалая Орсу на Беласточчыну дзеля таго, каб яны прачыталі беларусам цыкл навукова-папулярных лекцый. І студэнты пагадзіліся. У Беластоку да іх далучыўся і сябра ТБШ Васіль Лукашык.

Пятро Першукевіч у Беластоку прачытаў лекцыі на тэмы „Што мы павінны ведаць аб сусвеце?" і „Цуды тэхнікі", у вёсцы Тапільцы — „Людское жыццё і прырода", у вёсцы Валілы — „Аб прымяненні тэхнікі на вёсцы" і г.д. Дарэчы, Пятро Першукевіч быў родам з Навагрудчыны. Ён памёр, калі вучыўся на чацвёртым курсе матэматычнага факультэта Віленскага ўніверсітэта. Гэта быў адзін з самых актыўных сяброў ТБШ у Заходняй Беларусі. Ён з сябрамі абышоў пяшком усю Беласточчыну. Многія заходнебеларускія выданні напісалі пра яго смерць, а часопіс „Летапіс ТБШ" (№ 5-6) за 1933 год змясціў на вокладцы яго партрэт. Для беларусаў смерць Пятра Першукевіча была вялікай неспадзяванасцю і горам.

Але напачатку 1933 года Пятро Першукевіч яшчэ жыў і з сябрамі на канікулах ладзіў мерапрыемствы на Беласточчыне. Яго сяброўка Марыя Мілючанка ў Міхалове распавядала пра жыццё і творчасць Янкі Купалы, а ў вёсцы Новая Воля разважала пра долю жанчыны на вёсцы, а ў Гарадку — пра беларускі тэатр і яго грамадскае значэнне, а ў вёсцы Пяшчанікі прачытала лекцыю пра літаратуру і яе грамадскае значэнне, а ў Меляшках — пра Якуба Коласа — як песняра сялянства, а ў вёсцы Рушчаны людзі даведаліся ад яе пра Янку Купалу — як прарока беларускага адраджэння.

Пятро Чэчка ў Беластоку цікава распавядаў прысутным аб тым, што яны павінны ведаць аб свеце, а Васіль Лукашык у Міхалове — пра значэнне культуры і асветы ў жыцці народаў, а ў Меляшках і ў Белявічах ён прачытаў лекцыю на тэму „Чалавечае жыццё і прырода". Выступаў Васіль Лукашык і ў Зачарлянах, дзе цікава распавёў вяскоўцам пра народ і асвету, а ў Бацютах слухалі яго выступленне пра культурна-асветную самапомач сярод беларусаў, у Касцюках — пра патрэбы вёскі ў галіне тэхнікі.

23 студзеня Беласток наведаў харавы дырыжор, фалькларыст, грамадскі і музычны дзеяч, публіцыст і літаратуразнавец Рыгор Шырма. Ён далучыўся да актывістаў ТБШ і доўга гутарыў, чытаў вершы і спяваў песні, расказваючы ўсім пра літаратуру і для чаго яна патрэбна, а таксама пра беларускія народныя песні.

Выступленні вельмі падабаліся людзям, асабліва сялянам. На кожнай сустрэчы прысутнічала шмат люду. Сяляне ішлі паслухаць выступоўцаў за 10-15 кіламетраў. Яны шчыра віталі лектараў, просячы іх зноў прыязджаць, не забываць іх. Амаль пасля кожнай лекцыі задавалі выступоўцам сотні пытанняў. А ў некаторых вёсках маладых, адукаваных беларусаў не хацелі адпускаць. „Мы ўжо іх карміць, апранаць і, як найлепей, даглядаць будзем", — казалі вяскоўцы. Паслухаць студэнтаў прыходзілі сяляне, якім было ўжо па 70 і болей гадоў. Старэйшыя беларусы вельмі былі здзіўлены, што хлопцы і дзяўчаты з гарадоў, дзе яны вучацца, так адкрыта і смела гутараць з імі па-беларуску. Ад такіх доўгіх гутарак, сустрэч, маладыя лектары не паспявалі часам вярнуцца ў Беласток, таму прыходзілася начаваць у вяскоўцаў. Людзі з радасцю іх прымалі дома, стараліся як найлепей сустрэць і пачаставаць іх, просячы прабачэння, калі што не так.

Акрамя лекцый і дакладаў Марыя Мілючанка, Мікалай Орса, Васіль Лукашык і Пятро Першукевіч у памяшканні ТБШ у Беластоку наладзілі вячэрнія заняткі для дарослых. Марыя Мілючанка выкладала гісторыю беларускай літаратуры, Васіль Лукашык — гісторыю і беларускую граматыку, Мікалай Орса — біялогію, анатомію і прыроду, Пятро Першукевіч — матэматыку і фізіку. Заняткі адбываліся амаль месяц.

Пасля ўсіх лекцый, выступленняў і заняткаў па ініцыятыве студэнтаў на першы дзень праваслаўных Калядаў у Беластоку быў паказаны спектакль „Змагары за свабоду" — драматычныя абразкі з вясковага жыцця ўкраінца Івана Тагабочнага (1862-1933). А Беластоцкая акруговая ўправа ТБШ выказала падзяку студэнтам за лекцыі і вячэрнія заняткі для дарослых падчас калядных святаў.

Сяргей ЧЫГРЫН



# Памежжа ўзнімае крылы

**Заманілася мне паехаць недзе між Гайнаўку і Бельск. Заглянуў у інтэрнэтныя расклады аўтобусаў, забыўшы каторы ўжо раз, што яны, як прагноз надвор'я — непрадбачлівыя; выпала ехаць цераз Гайнаўку. Спісаў я абачліва раскладныя гадзіны і хвіліны, з якіх вынікала мне ў Гайнаўцы каля пяці мінут запасу. Але, даязджаючы ў Гайнаўку, затрывожыўся я ўцёкамі тых мінут, а з імі і аўтобуса ў напрамку Бельска. Заміж каля касцёла злез я з аўтобуса каля царквы і подбежкам з вуліцы Баторыя паспяшаў на вуліцу 3 Мая. Перад чыгуначным віядукам чакала некалькі асоб, значыць — аўтобус у Бельск мне не ўцёк. Той аўтобус, на маё шчасце, прыехаў не спяшаючы. Ды і аўтобусам той транспартны сродак, што ездзіць між Белавежай і Бельскам, цяжка назваць — гэта быў мікрааўтобус крышку большы за звычайнае таксі. Хаця не была тады гандлёвая ў Гайнаўцы серада, пасажыраў набралася больш, чым было месц у салоне...**

Злез я на прыпынку каля Шчытоў. Шчыты вітаюць прыбываючых туды падарожных інфармацыйнай дарожнай шыльдай, што за ёй памежная зона; да таго ж двухмоўная назва мясцовасці прыдае адчуванне сапраўднай наяўнасці там граніцы.

Шчыты ад гайнаўска-бельскай шашы пачынаюцца з могілак, зараз за якімі маляўнічая царква. Шчытоўская царква мае ў сабе, у ейнай архітэктуры, таксама знак памежнай зоны. Менавіта гэтая сакральная будоўля тыповая для таго перыяду, калі тут дамінавала памежнае між праваслаўем і каталіцтвам уніяцтва. У той час званіцы ўзводзіліся асобна ад цэркваў; памятка таго часу захавалася не толькі ў Шчытах — такія асаблівасці царкоўнай архітэктуры ўніяцкага ў нас перыяду захаваліся і ў недалёкай Орлі, і ў крыху далейшых Гродзіску і Чорнай-Вялікай, і ў Савічах ці Сырочыне, што ўжо за Бугам.

Іншай памяткай часоў царкоўнай уніі, якая захавалася ў Шчытах, з'яўляецца пяшчанікавая фігура святога Яна Непамуцкага, якая стаіць у невялікай аддаленасці ад царкоўнага комплексу. Інфармацыйны шчыт, устаноўлены перад царкоўным муром, інфармуе, што статую святога прывёз у Шчыты Ян Клеменс Браніцкі ў 1758 годзе. Царква, якая зараз стаіць у Шчытах, была ўзведзена ў 1785 годзе, а званіца яшчэ пазней — у 1849 годзе. Дзесяць гадоў раней Шчытоўскі прыход быў пераведзены ў праваслаўе, якое не прызнае культу трохмерных статуй, затое ў вялікай пашане тут двухмерныя іконы. У сувязі з тым непатрэбную, здавалася б, праваслаўным фігуру святога каталікі хацелі перанесці ў Бельск. Жыхары Шчытоў, якія фармальна былі ўжо праваслаўнымі неафітамі, аднак у душах асталіся ўніяцкімі старaверамі, не захацелі аддаць фігуры святога, якому яны і іх продкі пакланяліся цягам дзесяцігоддзяў. Узнікла бойка, у выніку якой галоўны вінаўнік закалоту страціў нос, руку і арэол, але астаўся ён на сваім устойным месцы.

Вікіпедыя: „Святы Ян Непамуцкі нарадзіўся прыблізна паміж 1340-м і 1350-м гадамі. У 1389 г. Ян быў прызначаны генеральным вікарыем пражскага архібіскупства. Чэшскі кароль Вацлаў IV (1378-1419) увесь час канфліктаваў з вышэйшым духавенствам краіны, адстойваў прыярытэт свецкай улады і ўмешваўся ва ўнутрыцаркоўныя справы, лічачы пражскае архібіскупства адным з галоўных сваіх апанентаў ва ўнутранай палітыцы. У 1393 г. па яго загадзе былі схоплены і кінуты ў турму Ян Непамуцкі і два іншыя святары. Неўзабаве таварышы Яна былі адпушчаны, а Ян пасля пакутлівых катаванняў быў пакараны — яго кінулі ў мяшку з Карлавага моста ва Влтаву. Пэўная прычына, па якой гнеў караля абрынуўся менавіта на Яна Непамуцкага, сапраўды невядомая. У 1433 г. храністы высунулі здагадку, вельмі верагодную, але дакладна не даказаную, што Ян адмовіўся выкрыць каралю таямніцу споведзі каралевы, духоўнікам якой ён быў. Ян Непамуцкі лічыцца нябесным заступнікам спавяданнікаў". Шкада, што змест апошняга сказа пра пражска-шчытоўскага пакутніка адсутнічае на шчытоўскіх інфармацыйных стэндах...

Зараз за царквой вуліца першай са шчытоўскіх вёсак — Дзенцялова. Пры перасячэнні яе з шашою ў Орлю арыгінальны будынак пажарнага дэпо, які можна нават назваць мясцовым архітэктурным помнікам. Калі ў іншых мясцовасцях пажарнаму дэпо прызначалася роля культурнага цэнтра, то тут былі мінімалістычна ўзведзены толькі сцены і прыкрыты дахам. На дзвярах прыбіты значок, што аб'ект быў збудаваны з дапамогай страхавочнай фірмы PZU. Падаюся вуліцай паглядзець вёску. Неўзабаве паспяшаю да двух мужчын, адзін з якіх вязе ў тачцы гной; другі да майго прыходу аддаляецца. Мой суразмоўца вязе стары гной, у якім ужо і салома перагніла, але я цікаўлюся ў яго не агратэхнікай, але пытаю пра будынак таго пажарнага дэпо. Даведваюся, што быў ён пастаўлены недзе каля 1970 года. Захоўвалася ў ім ручная помпа, якою карысталіся, бадай, толькі раз. Стаяў ён на гмінным участку, які гміна прадала прыватнаму ўласніку — уладальніку суседняга ўчастка. На пытанне пра катафалк перад крыжам, што на скрыжаванні вуліцы з шашой, даведваюся, што гэта вывадны крыж. Калі выводзяць пакойніка, дык святар моліцца спярша ў хаце, пасля перад тым крыжам, далей у царкве правіцца малебен з паніхідай ды яшчэ кароткая малітва над магілай.

Само Дзенцялова выглядае сімпатычна, некаторыя хаты багата ўпрыгожаны, шмат тут таксама старых хат, без шалёвак, якім, магчыма, больш ста гадоў.

Пасярэдзіне між дзвюма шчытоўскімі вёскамі — Дзенцяловам і Навадворамі — два здаўна бяздзейныя будынкі колішняга вясковага прагрэсу: крама і пункт прыёму малака. З захаду вецер прыносіць пераравісты пах свінскай фермы. З поўдня Шчытоў-Навадвораў працуюць тартак і сталярня, дзе, як інфармаваў мяне мой ранейшы субяседнік, працуе каля трыццаці мясцовых жыхароў. Але абедзве фірмы — свінарнік і тартак — з'яўляюцца ўласнасцю вонкавых асоб.

Зараз за Шчытамі-Навадворамі пралягае чыгуначная лінія, па якой некалі ездзіў цар з Пецярбурга ў Белавежу, а ў пасляваенны час малады народ па адукацыю ў Бельск і Гайнаўку. Ужо каля дваццаці гадоў па той лініі не адбываецца рух. Іду пабачыць, як выглядае колішні чыгуначны прыпынак Арлянка. Але мне гэта не ўдаецца. На пуцях за той час вырас сад з прымессю розных несадовых дрэў. І такі гушчар там зрабіўся, што з маршу дайсці да прыпынку немагчыма. А спелыя яблыкі апалі з яблынь і залеглі побач зарослых травою рэек.

Падаюся ў напрамку Орлі і з узвышша перада мною раскрываецца нябачны дагэтуль у нашым наваколлі краявід — лес новых ветракоў за гміннай мясцовасцю; у пахмурным краявідзе відаць іх восем. Перад Орляй заходжу на тамашні кіркут, а адтуль відаць чарговую арлянскую навінку — над мястэчкам навюткі лацінскі крыж... А ад самога кіркута адыходзіць вуліца Чырвонай Арміі, якая абрамляе Орлю з усходу — зноў апынуўся на памежжы, дзе сыходзяцца Усход з Захадам...

Думаў я спачатку не заходзіць у цэнтр гміннага цэнтра і прашмыгнуць вуліцай Сянкевіча ў напрамку Бельска. Аднак пабачаныя ветракі схілілі мяне да змены трасы. Быў я калісь пра тыя ветракі, калі іх яшчэ не было, прывёў крытычныя заўвагі жыхароў Спічкоў. І тады войт Пётр Сэльвесюк нацёр мне вушы за тое, што я не спытаў пра тыя ветракі ў яго. Дык цяпер рашыў я выведаць ужо адзіна правільную інфармацыю пра іх з найбольш верагоднай крыніцы. Зайшоў у Гмінную ўправу, але войт быў заняты, адно сакратарка паінфармавала мяне, што ветракі каля Спічкоў сталі стаўляць сёлета ў чэрвені, яшчэ не ўсе там пастаўлены. А далей будуць таксама пастаўлены ветравыя электрагенератары і каля Крывятыч.

Калі я пайшоў далей і спыніўся шчоўкнуць здымак арлянскай каталіцкай капліцы, падышла да мяне жанчына, загаворваючы:

— Ładny nasz kościół?

Інакш і быць не можа — ён жа новы. А крыж быў устаноўлены ў дзень сёлетняга каталіцкага свята Уздзвіжання Святога Крыжа. Капліца святога Яна Паўла II у Орлі з'яўляецца філіяльнай у наймалодшай бельскай галавескай парафіі Божага Провіду (Najświętszej Opatrzności Bożej). Капліца знаходзіцца ў будынку былой школы; такім чынам некаторыя парафіяне, якія калісь прыходзілі ў гэты будынак навучацца, будуць надалей навучацца, адно Закону, а іспыты трэба будзе здаваць у канфесіянале...

З самой Орлі, якая распалажана ў катлавіне рэчкі Арлянкі, новых ветракоў не відаць, таму падаўся я ў бок Спічкоў, разлічваючы пры нагодзе несанкцыявана — без згоды арлянскага войта — усё ж такі крыху пра тыя ветракі распытаць выпадковых жыхароў вёскі. Але войт Пётр Сэльвесюк мабыць мае „ходы" ва ўсіх найвышэйшых уладных эшалонах — калі я падняўся на ўзвышша перад Спічкамі, пайшоў непрадбачаны сіноптыкамі дождж, якога я, даверыўшыся сіноптыкам, не спадзяваўся і не забраў з сабою ніякіх супрацьдажджавых прыналежнасцей. Пранітаваў мяне той дождж да апошняй ніткі і ўжо не было сэнсу шукаць там нейкіх размоўцаў, бо ж нават у калядны вечар мабыць ніхто не хацеў бы размаўляць з прамоклым чужаком, а што гаварыць пра звычайны будзённы дзень. Нават не заходзіў у Спічкі, а паваллокся ў Вульку, адкуль відаць было велізарны кран за Спічкамі, гатовы падняць у тамашні гарызонт чарговы вятрак.

У гербе Орлі — арол. Цяпер, калі з аднаго і з другога бакоў гміннай мясцовасці вырастуць крылы ветракоў, мясцовасць прыме сімвалічны арліны выгляд. І тады можна будзе пісаць не *gmina Orla* але *orla gmina* — будзе крыху ашчадней...

У Вульцы сеў я на пэкаэсаўскі аўтобус з Орлі ў Бельск, падвоіўшы колькасць пасажыраў; аўтобус разлічаны на сорак асоб. А калі з яго злазіў — больш-менш насупраць Міхайлаўскай царквы ў Бельску — колькасць пасажыраў паменшала напалову...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Паэзія з-пад палкі Шымана Станкевіча

— Частка старэйшых жыхароў Крынак карыстаецца простай мовай. Гэта своеасаблівая, польска-беларуская сумесь. Так, між іншым, гаворыць дзед Шымана. Беручы пад увагу той факт, а таксама блізкасць беларускай мяжы, выдаем двухмоўны томік па-польску і па-беларуску, — піша Лена Рагоўская ў прадмове да выдадзенага ў Крынках паэтычнага зборніка „Вершы з-пад палкі / Powalona poezja z Krynek". Гэта плён „Прыгранічных" — летніх супрацьдыскрымінацыйных майстар-класаў Аб'яднання практыкаў культуры. Старшыня аб'яднання і заадно каардынатарка праекта Лена Рагоўская папрасіла аўтара вершаў, вучня трэцяга класа Гімназіі ў Крынках Шымана Станкевіча, каб разам з дзедам Тамашам узяўся за іх пераклад на простую мову. Безвынікова. Тады звярнулася яна да аўтаркі гэтага артыкула. Адмовіцца было немагчыма. Атрымаўся трайны дэбют. Першы ў жыцці аўтара зборнік вершаў, першая прыгода з паэзіяй аўтаркі гэтага тэкста і першы двухмоўны зборнік паэзіі, мабыць ва ўсёй гісторыі Крынак. Напэўна не надта ён стандартны, гледзячы з лінгвістычнага боку, але з самага сэрца. І, нямалаважнае, папаў ён у рукі шматлікіх школьнікаў з Крынак, Міхалова, а нават з Даўгабычава, што на мяжы з Украінай. Аказваецца, усё магчымае, нават перамога над мясцовай прадузятасцю.

— Калі ўручала я яшчэ цёплыя экземпляры зборніка Шыману, удзельніку майстар-класаў, ён расхваляваўся да слёз. Тады і я не вытрымала і таксама расплакалася, — прызнаецца рэалізатарка праекта Лена Рагоўская. — Гэта было ў час заняткаў. Некаторыя з удзельнікаў замерлі, убачыўшы беларускі пераклад. «Глядзіце, па-руску!» — ахнулі з немалым жахам. Ведаю, што і бацькам Шымана нялёгка было пагадзіцца, хаця яго дзед Тамаш пераважна размаўляе па-просту. Чаму гэта так, я ніяк не магу зразумець.

— А што сказаў сам аўтар?



Шыман Станкевіч з паэтычным зборнікам

### Эпітафія фармацэўту

Фармацэўт я, закончыў інстытут.
Даўно ўжо зведаў, які гэта труд.
Марыў пра тое яшчэ ў прадшколлі,
Цяпер раскажу вам усю сваю долю.
Служыў я жанчынам „Актывіяй" дзьмутых
І спавядаўся з прэзерватываў цвіком прабітых.
Ведаў калі, што і каму прадаць
І як „Вібовіт" нарыхтаваць.
„Нікарэтаў" усё больш пазбываўся,
А потым з дурняў пацыху смяяўся.
Цудоўную ваду прадаваў я тады,
А вы і не здагадваліся, што яна з трубы.
Хацеў так усё ўсім прадаваць,
Толькі аднаго я не змог стрымаць —
Чаргі дзядуляў пад аптэкай,
Якім не кампенсавалі лекаў.

— Выданне томіка гэта для мяне сапраўды вялікая неспадзяванка, а заадно вялікая радасць. Сапраўды вялікая падзея таксама для маёй сям'і і знаёмых.

— Калі ты склаў свае першыя вершы?

— Вершаскладаннем сур'ёзна займаюся паўтара года, але ўжо некалькі гадоў таму я напісаў, праўда, кароткі і дурненькі вершык пра туалет. З яго і ўсё пачалося.

— Тэмы Тваіх вершаў жыццём узятыя са свету дарослых: справы штодзённага, шэрага пражывання, амаль выжывання, нецікавыя жаноча-мужчынскія адносіны, старасць...

— Людзі, у асноўным, наракаюць. Нават польскія сатырычныя праграмы, якія я надта люблю аглядаць, засяроджваюцца на нараканні. Я толькі перакладаю гэта на рыфмаванні. Маім непераўзыдзеным узорам з'яўляецца Артур Андрус. Вяршыняй гумару, якую можна дасягнуць у вершы, з'яўляецца тэкст Анджэя Панядзельскага:

*To już są inne czasy,*
*już nie słychać patriotycznych pieśni.*
*Bóg, Honor i Ojczyzna — niepotrzebne skreślić.*

— Як Ты адрэагаваў на беларускі пераклад сваіх вершаў?

— Пачаткова я крыху здзівіўся, але потым зразумеў, што гэта частка мяне, маёй культуры, культуры маёй сям'і. Адмовіцца ад гэтага было б нечым сапраўды кепскім.

— Твой рэцэпт на жыццё...

— Заўсёды можа быць горш.

— Адкуль загаловак зборніка?

— Паэзіяй з-пад палкі назваў я свой фанпейдж на фейсбуку, да якога ўсіх сардэчна запрашаю. Шчыра кажучы, мая паэзія не ёсць нармальнай. Толькі адзін верш мае больш сур'ёзны характар. Яго загаловак — «Крынкі».

— Я ніколі ні ў якім сэнсе не займалася паэзіяй, але мушу сказаць, што пераклад Тваёй творчасці быў для мяне неспадзяванай і незвычайнай гульнёй.

— Гэтыя словы — для мяне найлепшая ўзнагарода, большая чым выданне зборніка. Яшчэ хачу падзякаваць усім, хто паверыў мне і ўсміхнуўся, чытаючы мае вершы. Гэта для мяне асноўнае.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

## http://krynitsa.info

Спакон вякоў так склалася, што беларускае грамадства — шматканфесійнае. Хоць праваслаўная вера заўсёды была дамінуючай сярод беларусаў, на тэрыторыі сучаснай Беларусі праходзяць каталіцкія імшы па-беларуску. Беларуская мова гучыць у цэрквах уніятаў, як дарэчы гучала напачатку XX стагоддзя ў малельных дамах пратэстантаў. Па-беларуску напісаныя „Аль-Кітабы" — свяшчэнныя кнігі беларускіх татараў, а сінагогі былі натуральным краявідам беларускіх гарадоў яшчэ сто гадоў таму.

Пасля ўладарання бязбожнай камуністычнай улады сітуацыя з веравызнаннем у беларускім соцыуме надзвычай спрасцілася — практычна ўсе сталі атэістамі. І хоць цяпер атэізм ужо не афіцыйны і не пануючы светапогляд, многія так і засталіся атэістамі. А некаторыя, напрыклад прэзідэнт Лукашэнка, сталі да таго ж „атэістамі праваслаўнымі". Праўда, ён не патлумачыў якім жа чынам скрыжаваў у сабе „атэістычнага вужа" з „веруючым вожыкам".

Цяперашняе беларускае рэлігійнае жыццё, магчыма, не ёсць такім насычаным як напачатку мінулага стагоддзя, але яно па-ранейшаму сведчыць, што „да Бога дарог многа". І натуральна, што знойдуцца тыя, каго цікавіць беларуская шматканфесійнасць, як, прынамсі, тых, хто стварыў і напаўняе актуальнай інфармацыяй хрысціянскі інфармацыйны партал „Крыніца.info". Месяцца гэтая віртуальная агульнахрысціянская інфармацыйная пляцоўка ў інтэрнэце па адрасе http://krynitsa.info і мае дзве моўныя версіі — рускую і беларускую.

Выгляд партала даволі сціплы, магчыма, такі, які павінен быць у сур'ёзнага сайта рэлігійнай накіраванасці. Злева мы ўбачым нерухомую частку, дзе змешчаны выйсці на шматлікія рубрыкі, а справа — анонсы паведамленняў, таксама падзеленыя згодна прынятай на сайце рубрыкацыі. Сярод яе раздзелаў — „Грамадства", „Навіны цэркваў", „Дабрачыннасць", „Каментары і аналітыка", „Меркаванне", „Каталог цэркваў" і многа іншых.

Каб больш падрабязна даведацца пра „Крыніцу.info", варта зазірнуць на старонку „Навіны супольнасці", дзе месціцца інтэрв'ю з натхняльнікам праекта Максімам Гацаком, які адначасова з'яўляецца намеснікам галоўнага рэдактара партала. „Свецкія СМІ заўважаюць хрысціянскія цэрквы толькі падчас нейкіх выключных падзеяў і ўвесь час спрабуюць знайсці якія-небудзь скандалы. Больш за тое, хрысціянскія навіны знаходзяцца там па-суседску з усялякімі гараскопамі, магіяй, распустай і гэтак далей. Таму і ўзнікла ідэя стварыць партал, які б аб'ядноўваў усе хрысціянскія канфесіі Беларусі і разам з тым не выключаў хрысціян з грамадскага жыцця", — кажа ён, прадстаўляючы свой сайт.

Паводле Гацака, рэдакцыя „Крыніцы.info" ўзяла за галоўнае правіла не кранаць дактрынальных адрозненняў, а закранаць тое, што аб'ядноўвае вернікаў усіх канфесій — любоў да Бога, любоў да роднай краіны, неабыякавасць да цяперашняга грамадства і да агульнай будучыні.

„На сайце мы стараемся ў роўнай меры асвятляць навіны з жыцця ўсіх хрысціянскіх канфесій, вядома, гэта спрацоўвае не заўсёды, але мы да гэтага імкнемся", — сцвярджае Гацак.

Да гонару рэдакцыі варта адзначыць, што пакуль намечаная мэта дасягаецца — партал сапраўды бачыцца незалежным сайтам непрадузятай рэлігійнай накіраванасці, які да таго ж запрашае да супрацоўніцтва.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з календара

Гаспадарнік, ідэолаг краёўцаў

# 75 гадоў з дня гібелі Рамана Скірмунта

Беларускі грамадска-палітычны дзеяч, буйны землеўладальнік Раман Скірмунт нарадзіўся 25 красавіка 1868 г. у вёсцы Парэчча Пінскага павета. Паходзіў з вядомага шляхецкага роду. Пачатковую адукацыю атрымаў у Рыжскай класічнай гімназіі, пасля вучыўся на юрыста ў Варшаўскім універсітэце, потым — у Венскім універсітэце.

Раман Скірмунт выступаў як адзін з ідэолагаў краёўцаў, дамагаўся стварэння Краёвай партыі Літвы і Беларусі як міжнацыянальнага блока польскай, беларускай і літоўскай палітычных арганізацый. У лістападзе 1905 г. ён надрукаваў у газеце „Kurier Litewski" зварот „Краёвай партыі Літвы і Русі" — фактычна праграму партыі, якая патрабавала ўвядзення дэмакратычных свабод, найперш свабоды нацыянальнага жыцця і роўнасці нацыянальнасцей, краёвага самакіравання, падкрэслівала прынцып недатыкальнасці прыватнай уласнасці. У пачатку 1906 г. Скірмунт паўтарыў зварот, змяніўшы толькі назву партыі на „Краёвая партыя Белай Русі і Літвы". 17 чэрвеня 1907 г. па яго ініцыятыве ў Вільні адбыўся з'езд землеўладальнікаў шасці беларуска-літоўскіх губерняў, які прыняў рашэнне стварыць „Краёвую партыю Літвы і Беларусі". Аднак сам Скірмунт не ўвайшоў туды — яго не задавальняла тое, што партыя ўзнікла як выключна польская, а Скірмунт імкнуўся стварыць партыю, якая мела б тры фракцыі — польскую, літоўскую і беларускую.

З 1906 г. Раман Скірмунт — дэпутат першай Дзяржаўнай думы Расійскай імперыі, ініцыятар аб'яднання дэпутатаў-краёўцаў у Групу заходніх ускраін. З кастрычніка 1910 г. член Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі. Уваходзіў ва ўправу Віленскага зямельнага банка, займаў розныя пасады.

У студзені 1917 г. узначаліў Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. З сакавіка 1917 г. — старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Менску. У красавіку 1917 г. узначаліў беларускую дэлегацыю да расійскага Часовага ўрада з патрабаваннем аўтаноміі Беларусі. У час нямецкай акупацыі Беларусі ўзначальваў „Менскае беларускае прадстаўніцтва". У красавіку 1918 г. увайшоў у Раду БНР, удзельнічаў у фармаванні новага складу Народнага сакратарыята, з 9 ліпеня 1918 — прэм'ер урада БНР і сакратар міжнародных спраў. Выказваўся за рэальную ўладу, збіранне вакол яе ўсёй этнічнай тэрыторыі беларусаў, памяркоўную аграрную рэформу. 20 ліпеня 1918 г. пайшоў у адстаўку з пасады старшыні ўрада. Працаваў у міжнароднай камісіі Рады БНР. У лістападзе 1918 г. уваходзіў у склад надзвычайнай беларускай дэлегацыі ў Нямеччыне і Швейцарыі з мэтай прызнання незалежнасці Беларусі. У польска-савецкую вайну 1920 г. імкнуўся не дапусціць падзелу Беларусі паміж бакамі. Адзін з заснавальнікаў Польска-беларускага таварыства ў Варшаве. Выказваўся за ўваходжанне краю ў склад міжваеннай Польскай Рэспублікі на ўмовах шырокай аўтаноміі.

Пасля на пэўны час Скірмунт адышоў ад палітычнага жыцця, жыў у сваім маёнтку Парэчча. Меў там цукровы завод, бровар, фабрыку сукна, вадзяны млын, збудаваў касцёл, лякарню, зрабіў падмурак новага палацу. У 1930 г. абраны сенатарам Польскай Рэспублікі. Далучыўся да беспартыйнага блока, выступаў супраць асіміляцыі нацыянальных меншасцей.

7 кастрычніка 1939 г. забіты ў сваім маёнтку мясцовымі жыхарамі па загадзе савецкага камісара Холадава.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# 50 гадоў разам

У апошнюю нядзелю верасня ў Гайнаўскім доме культуры (ГДК) адбылося ўрачыстае ўручэнне медалёў „За шматгадовае шлюбнае жыццё", прысвоеных парам прэзідэнтам РП Браніславам Камароўскім. Кіраўнік ЗАГСа Уладзіслаў Ігнацы Віткоўскі запрасіў 22 шлюбныя пары з горада і Гайнаўскай гміны. Прыбылі 20 пар ды з аднае пары адзін мужчына і ён узяў медаль жонкы.

На сустрэчу з юбілярамі прыбыў бургамістр Гайнаўкі Юрый Сірак ды дзеці і ўнукі сеніёраў. Перад юбілярамі выступілі малады́я спявачкі з ГДК. Спявалі яны песні прымеркаваныя да юбілею.

Гэтае магічнае святкаванне не кожнаму дадзенае. Выбраннікамі лёсу, якім удалося разам пражыць паўвека, бургамістр і кіраўнік ЗАГСа зычылі моцнага здароўя, многа шчасця і ўдачы. Былі, як заўсёды пры такой нагодзе, прыгожыя букеты кветак ад улад горада і традыцыйны келіх шампанскага. Усе праспявалі юбілярам „Sto lat!", фатографы зрабілі памятныя здымкі.

Медалі і памятныя віншавальныя граматы атрымалі: Люцына і Сяргей Андраюкі, Тэрэса і Ян Дацкевічы, Вольга і Яўген Дацкевічы, Антаніна і Марыян Яцкевічы, Вера і Павел Койлы, Марыя і Аляксандр Коські, Галена і Багуміл Крыўды, Ірэна і Мікалай Леанчукі, Анна і Ян Літвінавічы, Марыя і Браніслаў Матушэўскія, Марыя і Ян Пацэвічы, Ядвіга і Валенты Пэршка, Ала і Станіслаў Пыжаноўскія, Эва і Казімір Рабак, Надзея і Мікалай Сахарчукі, Ніна і Пётр Садоўскія, Яніна і Ігнацы Сакоўскія, Катажына і Міхал Саўчукі, Анна і Ян Шыманюкі, Антаніна і Андрэй Трэскі ды Станіслава і Ірэней Зяйка.

Падчас урачыстасці панавала мілая цёплая атмасфера. Святочны дзень 28 верасня 2014 года будзе для іх незабыўным.

У сувязі са знамянальнай гадавінай усім юбілярам выказваем на старонках беларускага штотыднёвіка „Ніва" самыя прыгожыя, шчырыя і сардэчныя пажаданні яшчэ доўгіх гадоў жыцця.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Бульбяная нядзеля

28 верасня Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе і Згуртаванне аніматараў лакальных ініцыятыў «Амега» арганізавалі мерапрыемства пад назвай «Бульбяная нядзеля». Такога роду імпрэза з думкай аб дарослых і дзетках была арганізавана ў пасёлку ўпершыню. Мерапрыемства пачалося ў 14 гадзін і доўжылася да змроку. У праграме былі конкурсы і забавы тыпу самая цікавая пячатка з бульбы, даўжэйшая лупіна, кіданне бульбай у кош, скачкі ў мяшках, цікавыя «чалавечкі» з бульбы і таму падобныя. Апрача таго была віктаырна «Як узнікае бульба?».

Калі дзеткі пад наглядам апекуноў на калідоры займаліся конкурснымі працамі, дарослыя насупраць у зале каштавалі бульбяныя стравы. Смакавітай аказалася бульбяная бабка, якую ў рамках конкурсу спяклі мясцовыя гаспадыні. Першую ўзнагароду конкурснае журы прызначыла Чаславе Вілюк, дзве раўнапраўныя другія — Алі Сцепанюк і Моніцы Алексяюк, трэцюю — Іаанне Раманюк. Асаблівым атракцыёнам была «бульбяная бяседа», якую ўдзельнікі арганізавалі самі, прыносячы з сабою ўласныя кошычкі. Застолле праходзіла ў мілай і сяброўскай атмасферы. А на пляцоўцы побач клуба расклалі касцёр і пяклі бульбу. На думку арганізатараў, мерапрыемства было ўдалай імпрэзай і на стала будзе занесена ў каляндар культурных мерапрыемстваў ГАК у Чаромсе.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — арабскую пагаворку.

1. прозвішча аўтара „Альпійскай балады" = 73 _ 74 _ 1 _ 2 _ 75 _;
2. існаванне = 48 _ 72 _ 71 _;
3. гарадок у Браслаўскім раёне = 41 _ 42 _ 11 _ 12 _ 40 _;
4. спакусіла Адама райскім яблыкам = 56 _ 24 _ 25 _;
5. з Цянь-Шаня ўліваецца ў Балхаш = 4 _ 68 _ 69 _;
6. сцябліна = 46 _ 47 _ 80 _ 81 _ 82 _ 8 _;
7. дошка на ножках для сядзення = 34 _ 35 _ 38 _ 36 _ 37 _;
8. разлеглае горнае ўзвышша з плоскай вяршыняй = 55 _ 70 _ 54 _ 13 _ 14 _;
9. сукупнасць даўгоў прадпрыемства = 49 _ 50 _ 51 _ 59 _ 60 _;
10. ператварaнне цвёрдага цела ў вадкае шляхам награвання = 63 _ 64 _ 65 _ 17 _ 66 _ 67 _;
11. між аўторкам і чацвяргом = 18 _ 19 _ 20 _ 21 _ 22 _ 23 _;
12. двухмерны прадмет з перакрыжаваных дратоў або шнуркоў для размежавання вызначанай прасторы, напрыклад, старон тэніснага корта = 61 _ 62 _ 43 _ 45 _ 44 _;
13. брат дачкі = 79 _ 83 _ 7 _;
14. ззаду фронту = 5 _ 6 _ 3 _;
15. сукупнасць характэрных прыкмет, узораў, тыпаў = 31 _ 32 _ 33 _ 30 _ 39 _;
16. узводзіў драўляныя будынкі = 58 _ 16 _ 15 _ 52 _ 53 _ 57 _;
17. уліваецца ў Нёман перад Мастамі = 76 _ 77 _ 78 _ 9 _ 10 _;
18. выхаваўчая ўстанова для найменшых дзяцей = 29 _ 28 _ 26 _ 27 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

1 2 3 4 5 6
17 18 19 7 8 9 10 11 12 13 14 15 16
20 21 22 23 24 25 26 27 28 29
30 31 32 33 34 35 36 37 38
39 40 41 42 43 44 45 46 47 48
49 50 51 52 53 54 55 56 57 58 59
60 61 62 63 64 65 66 67 68 69
70 71 72
73 74 75 76 77 78 79 80 81 82 83

**Адказ на адгаданку з 38 нумара**

Кулеш, Прыпяць, сумленне, бюро, Гайнаўка, Рона, айчына, пакута, Ульянаў, алея, лужына.

Рашэнне: **Усе не любяць грошай, пакуль яны чужыя**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 12.10 — 18.10

**(22.03. — 20.04.)** Шмат працы, выездаў — дома будзеш госцем. Час поўны рамантычных уздымаў і важных рашэнняў у старых парах. Добрая фізічная і псіхічная форма, дзякуючы пазітыўнаму стаўленню да жыцця. Ашчаджай!

**(21.04. — 21.05.)** 12-16.10. — час поўны шчаслівых выпадкаў, якімі ахвотна пакарыстаешся. Але 12-13.10. моцна трымайся ранейшых вызначэнняў. Схадзі да лекара. Старайся не есці салодкага. На працы пазбягай рызыкі.

**(22.05. — 22.06.)** Ажыўленне ў інтэлектуальных кантактах. 15-19.10. зоркі падымуць твой рэйтынг як на працы, так і на кампанейскім полі. Дзейнічай рашуча і энергічна. Да жыцця падыходзь з большай дыстанцыяй. 12-13.10. у пары паявіцца напруга, адпачніце ад сябе. Не раскідвайся грашыма, неўзабаве спатрэбяцца.

**(23.06. — 23.07.)** Змагайся са стрэсам, энергію разгрузі на шпацырах, на трэнажорні. Загарышся да інвеставання і памнажэння маёмасці ды гаспадарнасці. Інвестуй! На працы добры перыяд, будзеш беспамылковы! Старайся, дацэняць цябе.

**(24.07. — 23.08.)** Добрыя адносіны з людзьмі, у пары. У сям'і крыху зашмат возьмеш на сябе, стомішся. Не выручай іншых дома! Дбай аб сэрца і кровазварот. У меру варушыся. На працы не натужвайся, не бярыся за новыя выклікі. Калі шукаеш працы, не хадзі (пару тыдняў) на кваліфікацыйныя размовы; лёгкі маразм, які цяпер цябе ахопіць, можа зашкодзіць тваёй аўтапрэзентацыі.

**(24.08. — 23.09.)** 11-15.10. — творчыя задумы і вялікія шанцы. Можаш стварыць штосьці арыгінальнае, што вылучыць цябе сярод іншых. З 16 (да 21.10.) можаш з поспехам рушыць з новымі праектамі. Ты шчаслівчык — вельмі шмат людзей стаіць за табою! Варушыся штодзень, але не бегай, бо можаш атрымаць кантузію. Дбай аб горла і галасавыя струны. Нюхай эфірныя алеі, прымай вітаміны A і E.

**(24.09. — 23.10.)** 12-16.10. усё будзе складавацца дакладна па тваёй думцы, як сабе заплануеш. Апынешся там дзе трэба і ў адпаведным часе. 12-13.10. вельмі сур'ёзна падыходзь да ўсіх фінансавых забавязанняў. Будзеш падабацца. Можаш мець праблемы з імунітэтам і горшым настроем — настойкі з кізілу (дэрэня) і лімона робяць цуды!

**(24.10. — 22.11.)** Чакае цябе жарсны час. Паддайся фантазіі. У кампанейскіх адносінах захочацца табе спакою і стабільнасці. Не будзеш шарпацца з асобамі, з якімі табе ніколі не было па дарозе. Знаёмства з Казярогам з твайго атачэння варта пачаць нанова. А Барана асцерагайся як агню — ён няшчыры і нічога добрага не выйдзе са знаёмства з ім. Пільнуй грошай. Без праблем даможашся свайго. Адважся сказаць «Не!».

**(23.11. — 22.12.)** Паявіцца карысная прафесійная прапанова. Гэта сапраўднае прадказанне змен на лепшае! Раман? Так. Шлюб можа пачакаць! Не пераборшчвай з лякарствамі. Дыета цяпер пойдзе марна. Але магчымы новы раздзел у кар'еры — вызначай сабе новыя мэты і стаў больш амбітныя заданні.

**(23.12. — 20.01.)** 11-15.10. твая ацэнка сітуацыі ашарашыць усіх. Прадказанне новых шанцаў і магчымасцей. Без цяжкасцей злові вецер у свае ветразі! 12-13.10. не афармляй важных спраў. Небяспечнае тое, што недалечанае. Звярні ўвагу на свае ныркі, сэрца і горла. У прафесіі пойдзеш уперад як бура, можаш заняць важную пасаду. Магчымыя турботы, калі тваім шэфам будзе мужчына.

**(21.01. — 19.02.)** Не наракай на лёс, на гарызонце святлей! Але трэба будзе вярнуцца да незавершаных спраў. Твае планы могуць сустрэцца з крытыкай або абыякавасцю. Але ж паставіш кропку над «і»! Адатнешся ад фатуму, балючага мінулага і незычлівых людзей!

**(20.02. — 21.03.)** 12-16.10. знаёміты настрой, многа шчасця. Можаш браць крэдыты, падпісваць важныя дамовы. Але 14-18.10. можа быць бязлітасны момант для тваіх прафесійных планаў; пазбягай размоў з шэфам. А ў фінансах — лепш ужо быць не можа! Лёгка можаш зарабіць, прытым немалыя грошы! Але інвестуй вельмі асцярожна. На працы саперніцтва; нават калі будуць падкусваць, трымайся свайго курсу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Украіна ў цяні вайны (4)

Перад выхадам у царкву Дыяна Н. сцвердзіла:

— Гандзя, зусім не відаць, што ты пераапранулася.

Чалавек расце, калі пацвердзяць яго думкі. Да таго я выстойвала перад люстрам у доме Надзі, вязала хустку пад барадой і здзіўлялася пераменай, якая адначасова здавалася вяртаннем да каранёў або натуралізацыяй на царкоўна-ўкраінскім грунце.

У Львове мы прыкмецілі рэзкі дысананс паміж вясковым і гарадскім светамі, асабліва на цэнтральным чыгуначным вакзале, дзе сялян распазнаць на адлегласць. Чырванашчокія цётачкі ў хустках, апранутыя па той жа модзе як паўстагоддзя назад, пры сваіх гарадскіх аднапляменцах на вакзале, які звонку напамінае палац, выглядалі як прадстаўніцы іншай расы. Прытым не было тут экзотыкі, хутчэй разыходжанне ў часе.

Падобнае разыходжанне ў часе мы ўлавілі ў Пачаеве. Дзесяць гадоў таму, калі першы раз мы прыехалі ў Лаўру, я перажыла нешта накшталт дэжавю. Здавалася, час павярнуўся на сто гадоў назад. Сярод паломнікаў перамяшчаліся персанажы, якія здаваліся тваім прадзедам, бабуляй або дзедам. На манастырскім пляцы, як у часы Ісуса Хрыста, кружылі апантаныя, у якіх пасяліўся дэман. Іх дзікі роў у час багаслужбаў таксама здаваўся голасам з іншай эпохі і рэчаіснасці.

І ў гэты раз усё, што мы пабачылі і пачулі ў Лаўры, здавалася рэчаіснасцю з іншага свету і часу.

* * *

— Толькі не кажыце, што прыехалі з Польшчы! — папярэдзілі нас мясцовыя. Дзядзькі рэлаксаваліся рыбалкай насупраць Лаўры. У гэтай карціне было нешта біблейнае і адначасова грэшнае. У царкве правілі святочную літургію, а гэтыя, — хоць бы дзічкі, — адпачывалі і гарланілі сабе пра палітыку.

— А чаму нам хавацца з Польшчай? — пацікавіліся мы.

Досвед падказваў нешта адваротнае, заўсёды ў манастыры нас прымалі як сваіх.

— Там ужо новыя парадкі, — пачулі мы асцярогу.

Пасля пайшоў расказ пра раскол у пасёлку. Частка вернікаў дэманстратыўна перастала прыходзіць у царкву. Усё з-за палітыкі. Людзям не спадабалася крытыка майдана, якая звышактыўна вядзецца ў манастыры. І тое, што параненых беркутаўцаў дастаўлялі на самалёце на лекаванне і перахаванне. У Кіеве стралялі, а тут, над Лаўрай, самалёты гудзелі...

Аднак сапраўдны канфлікт распаліўся тады, калі ў цэрквах, падначаленых Маскоўскаму патрыярхату, духавенства адмовілася адпраўляць паніхіду за „Нябесную сотню”, то-бок, ахвяры майдана. З-за гэтага на Ровеншчыне аж пяць прыходаў перайшло пад Кіеўскі патрыярхат...

— А там не было пажараў? — пацікавіліся я.

— Не, не было, — здзівіліся ў сваю чаргу рыбакі. — Народ збудаваў царкву ды і вырашыў куды хоча прыналежаць.

Апошняя навіна прыйвяла мяне на наш праваслаўна-падляшскі панадворак. Рэха гэтага здарэння дайшло да Беластока. Як заўсёды ў перабольшанай і перайначанай форме. Беластоцкія цёткі, з якімі я стаяла да мошчаў Марыі Магдаліны, а гэта было некалькі дзён да падарожжа ва Украіну, пераживалі і баяліся за маю вандроўку. „Там жа пяць царкваў спалілі”, — паўтаралі спадцішка. На пытанне: „Хто падпаліў?” — я пачула ў адказ: „Католікі”...

З падобнай алергіяй мелі ўспрымаць слова „каталік” новыя ахоўнікі Лаўры, для якіх „Польшча” і „каталікі” — сінонімы.

Мова пра данскіх казакоў, якія ахоўваюць Лаўру.

* * *







Браму манастыра мы перасеклі ў спакоі, і крыху расчараваныя, што ніхто намі не пацікавіўся. На рукавах ваенізаваных мундзіраў, у якіх апранулі ахоўнікаў, красаваліся вялікія праваслаўныя крыжы. Строй выглядаў на фабрычную вытворчасць. Таксама паводзіны ахоўнікаў здаваліся быць людскімі і жыццёвымі. Мужыкі выстойвалі ў групках, гучна распраўлялі па-расейску і рагаталі, ды зачаплялі самых прыгожых расіянак. Хоць у тым самым часе ў царкве служылі літургію, якую, дзякуючы гукаўзмацняльнікам, чула палова пасёлка, па манастырскім пляцы людзі перамяшчаліся тудысюды, быццам па якім праменадзе. Паміж цэрквамі і каплічкамі на траве, як на майдане, стаялі палаткі. Калі мы рушылі следам „шпацыруючых” паломнікаў, неўзабаве апынуліся ў сталовай. Усе месцы былі занятыя.

У святочным казанні саноўнік панаракаў на ўкраінскі народ, ды напалохаў усіх апакаліпсісам. Сярод галоўных грахоў ён назваў п’янкі, гульбішчы, распуст і нацыяналізм. Якраз нацыяналістам атрымалася найбольш за тое, што 23 жніўня, якраз у час спасаўскага посту, святкавалі Дзень Незалежнасці Украіны. Атрымалі яны ярлык язычнікаў і „злачынцаў у законе”.

Усё было сказана на чыстай украінскай мове! І што тут дадаць: мы былі навочнымі сведкамі новага бунту. Трэцяя частка, якая ўдзельнічала ў багаслужбе, дэманстратыўна выйшла з царквы. Атмасфера канчаткова сапсавалася і не было ўжо як яе падняць, апраўдаць, бо ў час літургіі дзіка зароў апантаны...

Актывізаваліся і данскія казакі. Яны вылоўлівалі ў натоўпе моладзь і жанчын у вышыванках, ды ішлі іх следам. Як не смешна, тыя губілі хвост у сталовай. Там прапанавалі каля сотні страў, панаваў рух як у мурашніку.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# УВАГА КОНКУРС

## XVII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча абʼяўляюць XVII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

***Прынцыпы ўдзельніцтва***

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не зʼяўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на кампʼютары або разборліва рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — абʼёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XVII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

***Тэрміны***

1. Тэрмін дасылання **да 16 лістапада 2014 г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць абʼяўлены ў снежні 2014 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.


ISSN 0546-1960